ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

4 ліпеня 1997 г. № 27/3903 Кошт 3 000 руб.

## БОГ СТВАРЫЎ ЗЯМЛЮ, ЧАЛАВЕК ПРАВЁЎ МЕЖЫ

***Пётра ВАСІЛЕЎСКІ: "Не памылюся, калі скажу, што адзіная этнічная група, якой пагражае страта тоеснасці, — гэта самі беларусы. Не зусім карэктнай падаецца мне назва "Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур". У Беларусі адна нацыя — беларуская, адпаведна і нацыянальная культура — адна..."***

**4**

## "МОЖА БЫЦЬ НАЗВАНЫ СТАЛІЦАЙ..."

***Артыкул Мар'яна ВІЖА да 930-годдзя Мінска.***

**5—12**

## НАВУКОВЫ МЕТАД НЕСЦЕРКІ, альбо РАЗВАЖАЮЦЬ МАРГІНАЛЫ...

***Чарговая сустрэча "за гарбатай".***

**6—7**

## "ЦЫГАНСКІ БАРОН", ЯКІ ЛЕДЗЬ НЕ СКАЛАНУЎ МІНСК

***Погляд крытыка на прэм'еру***

**10—11**

## НЕЗАБЫЎНАЕ

***Успаміны Міколы ШЫМАНКІ. Да 115-ай гадавіны Купалавых народзін.***

**13—14—15**



*Як умею, так яе люблю,*
*Крэўную, бацькоўскую зямлю,*
*Васількова бераг той ракі,*
*Дзе плылі купальскія вянкі.*

*Чекалі па беразе другім*
*Пройдзе хлопчык з іменем маім,*
*Я гукну яго – і мне здаля*
*Адгукнецца родная зямля...*

*Фота Яўгена КОКТЫША*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Кажуць, стыхія сляпая і бязлітасная. Неўтаймоўная, яна не спыняецца ні перад чым... Чаму ж тады ўраган на Беларусі паваліў магутныя дрэвы, разбурыў моцныя будынкі, але не зачапіў безабаронныя крыжы? Што за знак такі дае нам прырода? Хто і што можа абараніць Беларусь і беларусаў ад палітычных ураганаў, ад саміх сябе? Чаму народ адрокся ад крыжа на гербе дзяржавы і прагаласаваў за зорку? Народ, часам, яшчэ больш сляпы і бязлітасны, чым стыхія?.. Хай сабе і гучыць гэта па-блюзнерску, але ж гэта не сцвярджэнне, а пытанне. Пытанне не да некага, а да нас... Каб вылечыць хворага, змагацца трэба не з вынікамі хваробы, а з яе прычынамі. Вынікі трагедыі будуць залечаны — пабудуюцца новыя дамы, пасадзяцца дрэвы. Але ці дазнаемся мы калі пра яе нябесныя прычыны? Ці захочам мы пра іх ведаць? Працэй простага сказаць: стыхія... Бязлітасная і сляпая...***

### АДГАЛОСКІ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі ўсё ж не дабыў да канца свой адпачынак: вярнуўся на Беларусь і пасля тэлемаста з Еўропай пабываў там, дзе вецер нанёс найбольшыя страты, паабяцаў, што наступствы трагедыі будуць ліквідаваны да 3 ліпеня — Дня Рэспублікі... Сталі вядомы некаторыя вынікі "гаспадарання" ўрагану. Прайшоўся ён па адзінаццаці раёнах Мінскай вобласці, чатырох — Брэсцкай, адным — Гродзенскай. Загінула пяць чалавек, больш за пяцьдзесят паранена. Лічба матэрыяльных стратаў удакладняецца. Пакуль называецца 800 мільярдаў рублёў... Калі размова заходзіць пра дапамогу замежжа, называюцца Расія, Малдова, Прыднястроўская Рэспубліка... І ніякіх вестак з Захаду. Хоць Еўропа заўсёды першай адгукалася на чужую бяду, хоць у Еўропе сёлета падобных трагедый не было... Вінаваты ў гэтым, вядома ж, Пазняк, БНФ і некаторыя з дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія толькі тое і рабілі апошнім часам, што "псавалі імідж нашай дзяржавы ў свеце"...

### ДАБРАЧЫННАСЦЬ ТЫДНЯ

Субота 28 чэрвеня на Беларусі была рабочым днём. Грошы, заробленыя ў гэты дзень, будуць пералічаны ў фонд ліквідацыі вынікаў стыхіі. У адрозненне ад падобных ранейшых суботнікаў, цяпер ніхто не абураўся. Бо была гэта не камуністычная "абязалаўка", была гэта — народная талака.

### ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ ТЫДНЯ

Сустрэча "чацвёркі" дзяржаў, якія заключылі між сабою мытны саюз (Беларусь, Расія, Казахстан, Кіргізія), запланаваная на 28 чэрвеня, не адбылася. Не змаглі прыехаць на яе па нейкіх "важных" прычынах прадстаўнікі Казахстана. Эксперты сцвярджаюць, што гэта пачатак канца яшчэ аднаго саюза...

### ІГНАРАВАННЕ ТЫДНЯ

У ліпені ў Страсбургу адбудзецца 6-я парламенцкая асамблея АБСЕ. На гэтае пасяджэнне зноў афіцыйна запрошаны толькі прадстаўнікі ад дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Еўропа па-ранейшаму лічыць новы Нацыянальны сход нелегітымным...

### СКАРАЧЭННЕ ТЫДНЯ

У выніку перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання, што прайшла на Беларусі, ліквідавана звыш 30 тысяч прадпрыемстваў, больш за 81 тысячу прадпрымальнікаў пазбаўлены ліцэнзій... Няўжо сапраўды яны нічога не рабілі, не стваралі рабочыя месцы, а толькі махлявалі пад найшоўшую прыпеўку: "Каб есці, піць і жыць у шчасці, дык трэба красці, красці, красці"?

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Гэтыя лічбы — агульнавядомыя. Але паўтораныя ў друку зноў і зноў — кожны раз балюча ўражваюць: за мінулы год насельніцтва Беларусі скарацілася прыблізна на 37 тысяч. Нарадзілася летась 96477 чалавек, а памерла — 133381...

### АДПАЧЫНАК ТЫДНЯ

Вытворчае аб'яднанне "Гарызонт", пасля таго, як у яго справы ўмяшаўся прэзідэнт, стала на Беларусі ледзь не ўзорна-паказальным. Газеты паведамлялі пра нябачныя рост вытворчасці ў параўнанні з мінулым і пазамінулым гадамі... І раптам — неспадзяваная навіна: увесь калектыў прадпрыемства на ўвесь ліпень ідзе ў адпачынак... Праўда, паведамляецца, што адпачынак гэты планавы, г. зн. задуманы загадзя. Можа, й так... Справа гэта новая на Беларусі, але, па ўсім відаць, перспектыўная.

### РАХУНАК ТЫДНЯ

За арэнду памяшкання сваёй штаб-кватэры Беларускаму народнаму фронту давядзецца заплаціць дзяржаве за сёлетні год 159 мільёнаў рублёў, паведаміла газета "Свободныя новости-плюс". Адкуль узялася такая сума? Калі раней з Фронту, як з грамадскай арганізацыі, бралі плату адзін долар за адзін метр плошчы, то цяпер запатрабавалі заплаціць па дзесяць. Як з камерчай структуры... І ніякіх тлумачэнняў: плаціце грошы, альбо... Як кажуць рускія — "на всякого мудреца довольно простоты".

### НАЗІРАННЕ ТЫДНЯ

У чэрвені ў пяць разоў вырас штраф за безбілетны праезд у грамадскім транспарце. І адразу стала выгадна кантралёрам лавіць "зайцоў". Прычым, каб лягчэй было "выбіць" грошы, дзейнічаюць кантралёры цяпер цэлымі брыгадамі і разам з міліцыяй. Дзейнічаюць такія брыгады — як штурмавыя. Безбілетнікаў выцягваюць з аўтобусаў ці тралейбусаў, вязуць у "аддзяленне", фатаграфуюць "для газет"... Было ўжо такое ў савецкія часы, памятаем, але тады хоць заробак людзям плацілі своечасова... Вытворчаму упраўленню грамадскага транспарту і сувязі Мінгарвыканкама "добра забытае старое" навуявздзенне спадабалася і адтуль паведамілі чытачам "Звязды", што колькасць такіх спецбрыгад у ліпені амаль патроіцца.

### ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Беларусь, вядома, не магла застацца ўбаку ад вырашэння расійскіх праблем: перазахоўваць ці не перазахоўваць У. Леніна, а калі перазахоўваць, дык як і куды? Тыя з нашых суайчыннікаў, якіх паранейшаму вядуць наперад ідэі правадыра, сусветнага пралетарыяту, прапанавалі перанесці маўзалей у Мінск — сталіцу СНД... Кажуць, у адной з новых мінскіх газет пачаты ўжо збор подпісаў за гэта. А што — няма такіх маўзалеяў, якіх не бралі б бальшавікі.

ФЕСТЫВАЛІ

# Свята на полі. Пеўчым!

Зноў напоўняцца музыкай рамантычныя прасторы Нарачанскага краю — зноў на Мядзельшчыне пачынаецца песеннае свята. Традыцыйны фестываль "Пеўчае поле" ладзіцца тут з 4 па 6 ліпеня намаганнямі Міністэрства культуры, упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама ды Мядзельскага раённага выканкама.

Лепшыя харавыя калектывы, ансамблі песні — акадэмічнага напрамку і народныя — з усіх абласцей Беларусі ды сталіцы бяруць удзел у сёлетніх імпрэзах. Маладзёжны хор Брэсцкага музычнага каледжа, столінская "Крыніца", народны хор з Шаркоўшчыны, Полацкі камерны хор, мужчынскі хор МАЗа, жыткавіцкая "Жытніца", вакальны ансамбль Вытворчага аб'яднання "Інтэграл", капэла БелАЗа — яны такія розныя! Таму і конкурсныя выступленні калектываў-удзельнікаў ацэньваць будуць па дзвюх асноўных намінацыях: "акадэмічны хор" ды "народны хор". Журы ўзначальвае народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі.

Як спадзяюцца арганізатары "Пеўчага поля", тры дні канцэртаў, творчых сустрэч, стасункаў самадзейных музыкантаў з прафесійнымі музыкантамі паспрыяюць развіццю і прапагандзе нацыянальнага харавога мастацтва, павышэнню выканаўчага ўзроўню пеўчых калектываў, узбагачэнню іх рэпертуару лепшымі ўзорамі харавой творчасці. Праз свята, на якім чакаюцца й замежныя госці, змогуць далучыцца да беларускага песеннага мастацтва самыя розныя людзі.

**Н. К.**



*На здымку: гэтак было на "Пеўчым полі" летась.*

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*

АДГАЛОСКІ

# Пра мора Герадота і наша балота

Увесь артыкул Генадзя Самусевіча "Несовпадение эпох" ("Свабода", N 55) — гэта паленіка з Сяргеем Дубаўцом, у прыватнасці, з матэрыялам, змешчаным там жа ў N 36. Паленіка не "лабавая", калі аспрэчваюцца асобныя думкі і высновы, але ад гэтага яна не становіцца мякчэйшай. "Чего больше в интеллигентских размышлениях о "порядочной власти" — социально-философского мечтательства или политической наивности?" — пытаецца аўтар. Тое самае пытанне напрыканцы набывае форму катэгарычнага "або — або": відавочных рэчаў можа не прызнаваць або "интеллигентствующий краснобай", або "агент" у асяроддзі інтэлігенцыі, чыя задача — уносіць раскол у шэрагі і сумнеў у галовы.

Наконт "агент" — дапушчэнне смелае. Нават рызыкоўнае. Бо калі б тычылася каго персанальна, то можна атрымаць, як Азаронак ад Статкевіча. Аднак я не на гэтым хацела б засяродзіцца.

Цэлы шэраг аналітычных артыкулаў "Свабоды" (а там ёсць моцныя аўтары), "Имени" і іншых дэмакратычных выданняў ставяць сёння несуцяшальны дыягназ не толькі так званай палітычнай эліце, але і ўсёй беларускай нацыі. Вось і згаданы Г. Самусевіч не мае ані кроплі ілюзіі адносна ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці: "Белорусская нация либо еще не сложилась, либо уже разложилась в большей степени, чем у всех остальных народов былой Российской империи".

Я асабіста схіляюся да першай высновы, і мне падаюцца перабольшанымі некаторыя адкрыцці гісторыкаў-паэтаў адносна нашых гістарычных перамог і здзяйсненняў.

Існуе, аднак жа, і іншая тэндэнцыя. Яна досыць выразна выявілася ў эсэ Ірыны Бурдзялёвай і Пятра Васючэнкі "Укрыжаваная Беларусь" ("ЛіМ" за 16 мая г.г.).

Тут ужо сама назва гаворыць пра асноўны змест і пафас эсэ. Што мы пакутнікі з пакутнікаў — рэч вядомая ад пачатку стагоддзя і замацаваная ў мастацкай літаратуры. Што архетып балота адпавядае характару беларуса — пра гэта таксама ў апошнія гады нямала казалася. Мала таго! Аказваецца, наша гаротная краіна на скрыжаванні еўразійскіх сілавых ліній — "у цэнтры крыжа". Амаль як Хрыстос, збавіцель людства. Быць у нулявой адзнацы каардынат, у пункце zero, — "трагедыя і абранасць" народа. І далей: "на Беларусі шмат чаго алагічнага, невытлумачальнага, непадуладнага сілагізму". Штосьці мне гэта напамінае... Чакайце, чакайце... Ці не вядомыя радкі расійскага паэта "умом Россию не понять"? Ды і пра абранасць песня нейкая знаёмая...

Эсэ, на мой погляд, уяўляе сабой паэтызацыю тутэйшай "недапраяўленасці", узвядзенне яе ў ранг нейкай вышэйшай, ледзьве не выратавальнай сілы. Захаваліся таму, што не сталі сабою? А мо захаваліся толькі фізічна — "мы ёсць", — а дух своеадметны якраз і вывятрыўся на еўрапейскім скразняку?

Калі абстрагавацца ад прыгожых і адарваных ад рэальнасці метафар — "адчуванне Бога ў душы", "жыццё ў духу", асуджаны на неўміручасць", — то давядзецца прызнаць, што мае месца перанос на нашу глебу даўняга славянафільскага свербу — канстатацыяй "асаблівага шляху" апраўдаць усе недарэчнасці і непамыслоты гістарычнага існавання. Занесла-такі злашчаснае зерне! Прарасло і ў нашым спракаветным балоце, дзе, на думку аўтараў, процьма харастваў. Яны, праўда, забыліся адзначыць, што там і пах своеасаблівы... Зрэдку толькі булькне, варухнецца тлустая твань, а мы, ідэалісты, рады ўлавіць любы нязначны рух. Каб цэлую пазму ў прозе напісаць пра некалі бураленнае Герадотава мора...

Хваліць сваё балота — нармальная з'ява для кожнага кулika. Аднак бачыць яго як ёсць — не значыць не любіць. Любім жа мы і шануем бацькоў пры ўсіх іх недахопах. Так і з уласным народам.

Што ж датычыцца святла ў канцы тунеля і неабходнага ўсім нам аптымізму — дык тут ілюзіі не ратунак. Яны свецяць адбітым, нежывым падманлівым святлом. Яны як тыя балотныя агеньчыкі, што завесці могуць хіба што ў багну.

Шлях да сябе — не крыж, які трэба "несці да канца". Гэта хутчэй чорная, няўдзячная праца, гэта раздзіранне павек у хранічна сонных, раскатурхванне душ і духу. Усё астатняе, калі яно выходзіць за межы чыстага мастацтва і прэтэндуе на філасофскія абагульненні, — тое самае "краснабайства", ад якога наўрад ці будзе толк. Сёння, прынамсі.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

ПОШТА

# Інакш не выказаць любові

Чытаючы ў "ЛіМе" за 6 чэрвеня ў артыкуле "Каб не прапаў скарб" словы І. Чароты ў абарону царкоўна-славянскай спадчыны, я і не думаў, што нешта можа мяне ўзбудзіць да пярэчання шаноўнаму спадару. Не думаў, пакуль не дачытаў да сцвярджэнняў аўтара, што царкоўнаславянская мова вядзе верніка да вышэйшага, да святла горняга, да святла з нябёсаў, а ўсялякае другое — "не зніжэнне, каб звесці Боскае да звычайнага..."

Больш за паўстагоддзе таму мой нябожчык-бацька (выкладчык старажытнаславянскай мовы ў ВНУ) даваў мне чытаць тэксты з Евангелля. Добра, што ён пасля майго чытання тлумачыў мне, пра што казалі Святыя Апосталы. Бо без яго перакладу я выглядаў бы, як тыя старэнькія бабулькі, пра якіх пісаў Уладзімір Караткевіч. Ідучы з царквы, яны ўзгадвалі пачутае, і ў іх выходзіла "сухі верабей на плоце" і таму падобнае. Такое вось узнёслае.

Калі ж гаварыць пра "хлеб наш надзённы", дык зноў згадваецца У. Караткевіч, які пытаўся ў маці, што такое "даждь нам днесь", а тая пераконвала яго, што "хаця я не ведаю, але так трэба". "Насущный" яны разам перакладалі — "насушаны".

Ці ўзносіць да горняга незразумелае? Магчыма, некуды ўзносіць, але гэта ўжо — магія. І хаця беластоцкія мужыкі сталі супраць гаворкі з Богам на роднай мове, трэба было б яшчэ раз папытаць іх пра гэта, даўшы ім пачуць, як такая гаворка гучыць. Думаецца, гэты "народнай мудрасці аргумент" адпаў бы сам сабой.

Можна спасылацца на індыйскія Веды і на што іншае, але для мяне неабвержным аргументам звяртання да Бога роднай мовай ёсць жыццё Ісуса Хрыста і ягоны запавет да вучняў, каб яны неслі Ягонае слова людзям на іх роднай мове.

Рымская царква колькі ўжо гадоў адкінула лаціну і гаворыць з кожным народам на ягонай мове, бо яна (царква) усвядоміла, што чалавек не ў стане ні ўзвысіць, ні прынізіць Бога. Чалавеку трэба імкнуцца стаць бліжэй да Яго, але хай мне пакажуць таго, хто зможа выказаць сваю любоў незразумелымі словамі лепш, чым сваімі роднымі?

**У. РЫСЯВЕЦ**

*г. Мінск*

ПОГЛЯД

# Вялікая перамога і вялікая бяда

***На гэты раз тэма майго артыкула старая-новая — "вайна і мір", прычым закранутая ў ракурсе гаворкі пра "праўду гісторыі", распачатую на старонках "НН". Гэта, вядома, не прафесійная гістарыяграфія, а па-аматарску інтуітыўны аналіз, амаль прыватнае бачанне старой праблемы з вышыні (ці глыбіні?) сённяшняга часу. Спадзяюся, што яна знойдзе водгук у чытачоў, хаця майскі вяліка-пераможны афіцыёз сцішыўся. Але цяпер якраз чарговае свята — частковага вызвалення, "перасунутага" дзяржаўнага нараджэння. Самы час успомніць і пра гістарычную праўду.***

"Вызваленне і перамога", "мір і вайна", "праўда і справядлівасць" — словы-сімвалы, словы-сцягі, словы-змагары! За савецкім часам яны сталі надзейнымі прапагандысцкімі штампамі, сапраўднымі ідэалагічнымі "кувалдамі", з дапамогай якіх рэгулярна пляжыліся "ворагі сацыялізму" ўсяго свету. І калі за апошнія 10 год высвецілася, што "праўда" — гэта толькі добра замаскіраваная хлусня, "мір" — ціхая вайна супраць свайго народа і яго лепшых сыноў, а пра справядлівасць забыліся нават прафесійныя філосафы-ленінцы, то "вызваленне" і "перамога" гэтак жа ззяюць сваёй ідэалагічнай цнатлівасцю, як і 40 год назад. Ці так усё тут чыста, ці не хаваецца што іншае за фанфарным громам "Вялікай Перамогі"?

Так, было вызваленне 1944 года, перасталі страляць і бамбіць, але голад, нястача, сацыяльны ўціск і здзек (ужо над народам-пераможцам) не зменшыўся. Асабліва ў вёсцы. Надзеі, што пасля вайны будзе свабода, дадуць зямлю, скасуюць калгасы, дазволяць людзям вальней уздыхнуць, не спраўдзіліся. Пасля вызвалення прадоўжылася закабаленне, толькі не нямецка-фашыстоўскае, а камуністычна-расійскае, "сваё", "роднае".

А што ж прынесла вайна і перамога самому рэжыму, савецкай сістэме? Вайна, я мяркую, была неабходнай для сталінскай дзяржавы і ці не планавалася загадзя. Бадай, не было толькі разліку на такую працягласць і вялікія ахвяры. А так — усё натуральна: вайна — спосаб існавання імперый, сама прырода якіх патрабуе новых заваёў, новых тэрыторый, а сталінізм у гэтым нічым не лепшы за гітлерызм, хіба што апошні больш грунтоўна і мэтанакіравана вёў падрыхтоўку. Аднак, нягледзячы ні на што, вайна ў рэшце рэшт стала настолькі пераможнай для савецкай сістэмы, наколькі трагічнай для народаў — асабліва для беларускага, якога проста падставілі пад германскі ўдар як "тэрытарыяльна-людскі" шчыт або "ахвярнага цяльца" вялікай палітыкі (ці першы раз?). Карысць для СССР ад вайны пачалася ўжо ў 42-43 годзе, калі эвакуіраваныя на ўсход заводы стварылі новыя і ажывілі старыя прамысловыя цэнтры на Урале і ў Сібіры. Фактычна падчас вайны адбылася індустрыялізацыя ўсходніх рэгіёнаў, прычым тэмпамі, што перавышалі першыя пяцігодкі. Якімі метадамі і ахвярамі тое рабілася, добра ведаюць жанчыны і падлеткі, прыняўшыя пасільны, а часта і непасільны ўдзел у той эпапеі.

Другі эканамічны вынік вайны — размяшчэнне ў Еўрапейскіх рэгіёнах Саюза вывезенага з Нямеччыны прамысловага абсталявання, што стала падмуркам новых заводаў на тэрыторыях, пацярпелых ад акупацыі. Такім чынам, у выніку вайны СССР стварыў моцныя прамысловыя цэнтры ў азіяцкай частцы і выйшаў на новы тэхналагічна-вытворчы ўзровень, праўда, у даволі вузкім сектары — ваенна-прамысловым комплексе. З гэтага часу ўсё самае лепшае ў эканоміцы, тэхналогіі, навуцы стала працаваць на вайну і ўзбраенне. Хаця для народа запусцілі прыгожую казку пра "свету — мір" і што мы наогул — "самыя мірныя ў свеце".

Але былі і іншыя вынікі перамогі — ідэалагічныя і палітычныя. Вайна не толькі скаланула эканоміку і ўліла свежай прамысловай крыві ў сістэму, але і "падпудрыла" палітычны твар рэжыму (папсаваны ў 30-я гады), падняла яго стаўкі на міжнароднай арэне. Цікава, што нейкі час наконт гэтага меў ілюзіі і Захад. Але ж колькі воўка ні кармі, а імперыя возьме сваё: з новымі аргументамі і з новай сілай яна пачала свой месіянскі "вызваленчы" паход. Лозунгі пра "сусветную рэвалюцыю" змяніліся на канцэпцыю "сусветнай сістэмы сацыялізму", вядома — з цэнтрам у Маскве, а дакладней — у Крамлі, у кабінеце вялікага камуніста і сціплага генералісімуса ўсіх часоў і народаў.

Логіка простая — калі савецкая, сталінская сістэма перамагла самага страшнага ворага чалавецтва (тушонка, ленд-ліз і "прагулкі па нармандскіх пляжах" — не лічацца) — то яна самая справядлівая і жыццястойкая і яе трэба распаўсюдзіць ва ўсім свеце ці, для пачатку, хаця б у Еўразіі. Хто супраць? Хто хоча задушыць волю працоўных да свабоднай працы, братэрства і справядлівасці? Тут панурыў галаву не толькі беларус, але і чэх, і мадзьяр, і паляк — супраць "волі" і "справядлівасці", падпёртых танкамі, ГУЛАГамі і татальнай хлуснёй, далёка не папрэш. Інерцыя і аўтарытэт галоўнага пераможцы нішчылі любыя ваганні і супраціў. Савецкая масць біла ўсе козыры — гульня пайшла па яе правілах. Можна сказаць, што ў выніку вайны СССР атрымаў вялікі ідэйна-псіхалагічны допінг, які адцягнуў ягоны заняпад на 10—15 год.

Яшчэ на большы тэрмін быў адцягнуты крах імперскай ідэалогіі ўнутры краіны. Адзін з апошніх яе ўсплёскаў мы назіраем сёння на Беларусі і не адзін яшчэ будзем бачыць у межах Расіі, пераемніцы першай і другой еўраазіяцкай імперыі.

Вяртаючыся ж да вынікаў вайны, можна зрабіць сёння такі вывад: там, дзе сістэма пацярпела паразу — выйграў народ. Праз пакаянне, пераасэнсаванне гісторыі, перасцярогу будучых катастроф немцы адрадзіліся. Там, дзе сістэма перамагла, — народ прайграў. Бо не адбылося ачышчэння душы, аднаўлення свядомасці, засталіся старыя таталітарныя хваробы — нянавісць, мілітарызм, абмежаванасць, страх, якія нішчылі лепшыя, стваральныя сілы грамадства. Распад і дэградацыя зацягнуліся на многія дзесяцігоддзі. "Выздараўленне" ж (прынамсі, Беларусі) — адкладваецца да пачатку дваццаць першага стагоддзя. "Вялікая перамога" скончылася "Вялікай бядой". У гэтым і праўда і справядлівасць дыялектыкі жыцця.

**Васіль АЎРАМЕНКА**
*г. Магілёў*



*22 чэрвеня і 3 ліпеня — дзень пачатку вайны і дзень вызвалення — назаўсёды зблізаныя ў памяці нашага народа, асабліва — у памяці старэйшага пакалення. Нямала гадоў прамінула, а даты гэтыя штораз агукаюцца адна — вялікім болем, другая — радасцю са слязою на вачах.*

*Гэты здымак — згадка пра час, што між гэтымі датамі. На ім занатаваны генерал Конеў і пісьменнікі М. Шолахаў, А. Фадзееў і Я. Пятроў на назіральным пункце ў раёне Смаленска летам трагічнага 1941-га.*

ФОТА БелТА

ЭКСЛІБРЫС

## "Архіўная кніга"

*Аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч. БІНІМ, Нью-Йорк, 1997.*

**З сумнага працэсу эміграцыі беларускай свядомай інтэлігенцыі за мяжу, бо зараз тут, у Беларусі, дзе ідзе змаганне за нацыю, як ніколі патрэбны кожны чалавек, ёсць і прыемныя выключэнні. Вось з'ехаў некалькі гадоў таму ў Амерыку малады і мала каму вядомы тады аспірант Лявон Юрэвіч. Але не разгубіўся, адразу выплыў у славянскім адзеле Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі і з неўтаймаванай заўзятасцю, з году ў год выдае салідныя тамы твораў беларускіх пісьменнікаў у эміграцыі са сваімі прадмовамі і каментарыямі. Нагадаю, што гэта творы У. Дудзіцкага (1994), М. Целеша (1995), Ю. Віцьбіча (1996). І вось — "Архіўная кніга".**

**Можна казаць пра пэўныя метадычныя недахопы ў гэтых выданнях, але яны марнеюць у параўнанні з навізною і аб'ёмам літаратурнага матэрыялу, змешчанага ў іх. У "Архіўнай кнізе" Л. Юрэвіч падае разгорнутыя жыццяпісы беларускіх пісьменнікаў, якія па волі лёсу апынуліся ў эміграцыі: У. Дудзіцкага, Х. Ільяшэвіча, У. Клішэвіча, У. Сядуры-Глыбіннага, М. Вярбы, а таксама іхнія творы, знойдзеныя ў беларускіх архівах і перыёдыках у эміграцыі. Падсумоўвае кожны раздзел грунтоўная бібліяграфія твораў пісьменніка. Асобна падаюцца ў кнізе лісты Ю. Віцьбіча, у пэўным сэнсе бацькі літаратурнага аб'яднання на эміграцыі "Шыпшына", які шмат для каго з беларускіх пісьменнікаў за мяжою выступаў як мудры і разважлівы крытык і дарадца.**

**Матэрыялы да біяграфіі пісьменнікаў, а таксама шчодра размешчаныя лісты, успаміны даюць уяўленне пра жыццё беларускіх літаратараў як пра найцікавейшы жыццёвы працэс, дзе змяшалася ўсё — і трагедыя асабістага лёсу, і няпэўнасць ва ўласнай будучыні, і боль за Беларусь, і творчыя планы, і звычайныя пісьменніцкія амбіцыі.**

**Чытаючы кнігу, адчуваеш подых праўдзівага літаратурнага жыцця, якое імкнуліся арганізаваць беларускія пісьменнікі за мяжою. Вось Ю. Віцьбіч піша ў Канаду А. Змагару: "Увогуле, у нас тут, у Амерыцы, апошнім часам паміж беларускімі літаратарамі наладзілася сяброўская еднасць".**

**Нераўназначныя таленты пісьменнікаў, творы якіх змешчаны ў "Архіўнай кнізе". Бясспрэчна таленавіты У. Дудзіцкі, які пісаў: "Сціскаюць хвалі пеністыя мора Маіх чаўноў скрыпучую тугу, А я кладу паволі на ваду Драбніцы ўцех і смоль тугую гора...", суседзіць з менш таленавітым, але шчырым працаўніком у беларускім асветніцтве Х. Ільяшэвічам.**

**Адкрыццём для мяне была лірыка мала знанай у нас В. Таполі, якая магла б вырасці ў таленавітую паэтку, калі б не з'ехала ў падсавецкую Беларусь. Шчыра гучаць словы малітвы М. Вярбы, які ад усіх эмігрантаў прасіў: "Божа Ўсемагутны Уладар наш! Ты вывеў народ Твой Ізраіля з Зямлі Егіпецкай. Мы просім Цябе: выведзі Ты і наш шматпакутны народ з ярма камунізму". Цікавыя і каштоўныя згадкі з лістоў Ю. Віцьбіча пра літаратурнае жыццё ў Беларусі ў 30-х гадах, ягоныя ўспаміны пра "Узвышша" і ТАВІЗ (Таварыства аматараў выпіць і закусіць).**

**Ацэньваючы працу Л. Юрэвіча, можна казаць пра унікальнасць "Архіўнай кнігі" для беларускага літаратура- і архівазнаўства, бо нічога падобнага ў Беларусі яшчэ не робіцца.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ІМПРЭЗЫ

# Забаўкі з глыбокім сэнсам

...Прыблізна апоўначы зьмітаваная жалобная працэсія, асветленая паходнямі, рушыла да месца пахавання, якое ўяўляла з сябе насыпаны на лясной паляне невялічкі курганок з татэмападобным слупком. Развітальна прагучалі імёны нібыта памерлых і галашэнні па іх. А далей распачаліся надмагільныя чытанні твораў тых, хто прысутнічаў на пахавальнай цырымоніі. Прадоўжылі традыцыйную трызну па нябожчыках развагі паводле сэнсавай лініі "смерць — хаўтуры", гутаркі на іншыя тэмы, выкананне ўласных песень і кампазіцый вядомых айчынных гуртоў пад гітару ды жалейку.

Гэтак праходзіла на мінулым тыдні пад Мінскам акцыя самапахавання пэўнай часткі маладой беларускай інтэлігенцыі, якую ладзіла амаль невядомая пакуль супольнасць "Вецер і плынь". Некалькі чалавек вырашылі "пахавацца" яшчэ пры жыцці, стварыць уяўнасць уласнай смерці. Так, акцыя выглядае трохі надуманай і штучнай, але галоўнай мэтай было дасягнуць гэткім чынам стану разняволенасці ды ўзрушыць асобу на акт свабоднага мыслення. (Дарэчы будзе адзначыць, што ўдзельнікі мерапрыемства ўзгадвалі з гэтае нагоды Васіля Быкава, які меў уласную магілу пры жыцці).

Памянёныя вышэй тэатралізаваныя хаўтуры — не першая акцыя, наладжаная "Ветрам і плынню", аднак яна пакуль самая буйная. Хаця планавалася, што мерапрыемства будзе больш маштабным, але, на жаль, шмат хто не здолеў альбо не схацеў браць у ім удзел, а запрошаныя ў якасці гасцей былі вельмі вядомыя ў краіне літаратары.

Тыя, хто ўваходзіць у "Вецер і плынь" — гэта маладыя паэты, музыкі, філосафы, мастакі, — даводзяць, што іхняя супольнасць не падобная да звычайнага літаратурна-мастацкага аб'яднання. Маўляў, розніца ў тым, што апошнія маюць пачатак і канец, пэўны арганізацыйна-іерархічны лад, а "Вецер і плынь" ёсць вольная супольнасць, бязмежная і пазачасавая. Ветраплынеўцы асацыіруюць сябе з аб'яднаннямі гэткага ж кшталту, што існавалі ў Старажытным Кітаі. І нельга вызначыць, што ёсць "Вецер і плынь" (як і вецер, і плынь). Гэта штосьці адвечнае, мажліва, Інь і Янь. Члены супольнасці асабліва засяроджваюць увагу на гэтак званай паўсюднай пераемнасці "Ветру і плыні", напачатку гэта было ў Кітаі, цяпер — на Беларусі, пасля ўзнікне яшчэ дзе-небудзь. Такім чынам, дастаткова прыгожа, але ці не занадта амбіцыйна дэкляраваць сваю спадкаемнасць з традыцыямі глыбокай кітайскай культуры?

Прыналежнасць да "Ветру і плыні" не ёсць рэч пастаянная. "Вецер і плынь" — гэта фактычна незаўсёдны, часовы стан, які ўяўляе з сябе знаходжанне на мяжы прыроды і культуры, выпадзенне з машыны дзяржавы і грамадства. Аднак пры гэтым не абвяшчаецца аніякага супраціву той жа дзяржаве, а гэта простае сцвярджэнне таго, што любое грамадства знішчае асобу, прымушае чалавека кіравацца ўстаноўкамі і нормамі, пададзенымі як штосьці абавязковае.

А якім жа чынам дасягаецца пачуванне сябе на мяжы культуры і прыроды? Так, можна з'ехаць з горада, можна разняволіцца ад сонца і віна. Можна разглядаць тую ж смерць, як натуральнае з'явішча, а хаўтуры — як элемент культуры, можна разважаць пра механізмы іхніх суадносін. Але такая частковая асацыяльнасць непазбежна, відаць, будзе весці да прыкрай аморфнасці і да, у пэўнай ступені, штучнасці. Да таго ж, гэта ўсё часова. Аднак адно падаецца неаспрэчным: калі маладая інтэлектуальная эліта нетрадыцыйным чынам падыходзіць да творчасці і ўвогуле мыслення, значыць гэта для яе найбольш спрыяльны шлях.

Дужа карыснай для мастацтва выглядае функцыя "Ветру і плыні" па забеспячэнні кантактавання паміж нашымі творчымі маладымі асобамі. "Вецер і плынь" па сутнасці даўгачасны, а, мажліва, і бясконцы праект, аздоблены шматлікімі планамі (набыццё памяшканняў для сустрэч, сваё выданне і г.д.).

І хаця ідэя — "Вецер і плынь" — выдатная, але пакуль трохі патыхае блазенствам. Ветраплыняўцам яшчэ давядзецца даказваць свае важкасць і сур'ёзнасць.

**Кірыла ПАЗНЯК**

## Прэм'ера кніжкі

**Новае выданне "Цудоўная краіна" паэт Васіль Жуковіч прадставіў на сваёй творчай вечарыне, якая прайшла 20 чэрвеня ў зале Вышэйшага пажарна-тэхнічнага вучылішча ў сталіцы Беларусі. Курсанты вельмі цёпла прымалі лірычныя вершы, санеты, вершаваныя мініяцюры ў выкананні аўтара. Творы з прэм'ернага выдання чыталі дачка паэта Яўгенія Жуковіч — студэнтка Беларускага універсітэта культуры, будучая актрыса і рэжысёр, а таксама артыст купалаўскага тэатра Віктар Манаеў. У зале гучалі беларускія мелодыі ў выкананні цымбаліста Алеся Лявончыка.**

**П. ГАРДЗІЕНКА**

## Будзе яшчэ адна выстава

**Больш трох гадоў доўжыцца дружба паміж творчымі аб'яднаннямі "МЭЯ" (мастацва, экалогія і Я) з Гомеля і Таварыствам беларускай культуры "БЭЗ" з Эстоніі. У гарадах Йыхва і Талін ужо адбыліся тры выставы гомельскіх мастакоў, членаў "МЭЯ", а ў ліпені-жніўні сёлетняга года па запрашэнні беларускага таварыства культуры з Эстоніі будзе арганізавана яшчэ адна, якая пройдзе пры падтрымцы аддзела культуры Гомельскага аблвыканкама.**

*На здымку: члены творчага аб'яднання "МЭЯ" Уладзімір Андрыянаў, Ларыса Зуева і Святлана Курашова выбіраюць работы для выставы ў Эстоніі.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Стала песня прызваннем

**Даўно і добра ведаюць на Петрыкаўшчыне Георгія Дзмітрыевіча і Надзею Аляксандраўну Кебцаў. Не толькі як выкладчыкаў гарадской дзіцячай музычнай школы, а і таленавітых самадзейных кампазітараў. Дарэчы зазначыць, што толькі галава гэтай сям'і напісаў звыш 50 песень на вершы мясцовых аўтараў. Ёсць у яго чыста музычныя творы. Яго спадарожніца піша лірычныя і дзіцячыя песні. Адным словам, ёсць ім з чым выйсці да слухача.**

**З улікам гэтага ў літаратурна-музычным салоне пры РДК прайшла прэзентацыя творчасці музыкаў. Прагучала шмат песень у выкананні саміх віноўнікаў урачыстасці, іх сяброў Маргарыты Жарабцовай і Ірыны Молінай, культасветработніка Людмілы Баравой, юнай спявачкі Марыны Папко.**

**А. ЛІСІЦКІ**

*На здымку: самадзейныя кампазітары ў час рэпетыцыі.*

СУМЕЖЖА

# Бог стварыў зямлю, чалавек правёў межы

Вядомы амерыканскі пісьменнік Амбраз Бірс называў дзяржаўную мяжу "уяўнай лініяй, якая аддзяляе ўяўныя правы аднаго ад уяўных правоў другога". Такі выраз не прэтэндуе на універсальнасць, але ў ім нешта ёсць. Мне не часта даводзілася выязджаць за межы Беларусі, але кожным разам у момант перасячэння мяжы я падсвядома шукаў вачамі нешта такое, што выразна сведчыла б, што я ўжо ў іншай краіне. Але па абодва бакі "ўяўнай лініі" былі тыя ж лес і поле, пагоркі і рэчкі. "Уся розніца паміж краінамі — у жаргоне і мундзірах паліцыі". А гэта словы Тэафіля Гацье. І ў гэтым нешта ёсць, хоць, зноў жа, гэта не ісціна ў апошняй інстанцыі.

У адным я ўпэўнены: мяжа паміж, скажам, Гарадзеншчынай і Віленшчынай альбо Беласточчынай такая ж уяўная (хоць і дзяржаўная), як і мяжа паміж Гарадзеншчынай і Міншчынай. І так паўсюль, па ўсім свеце. У прыродзе няма рэзкіх межаў, ёсць паступовыя пераходы з аднаго стана ў другі. Межы прыдумаў чалавек.

Аднак каб перасячы "ўяўную лінію", трэба мець адпаведны дакумент, візу, трэба заплаціць грошы, выстаяць чэргі, прайсці памежны і мытны кантролі. Такім чынам "уяўнасць" становіцца рэальнасцю. Ды ўсё ж у філасофскім сэнсе межаў альбо ўвогуле няма, альбо ўвесь свет трэба прызнаць адным суцэльным сумежжам.

3—4 чэрвеня ў Гародне праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя "Культура беларуска-польска-літоўскага сумежжа". Акрамя беларускіх навукоўцаў, у ёй бралі ўдзел вялікія групы з Летувы і Польшчы, былі таксама госці з Германіі і Расіі, планаваўся ўдзел украінцаў. Арганізатарамі былі шэраг урадавых устаноў, навуковых і грамадскіх арганізацый. Але найперш — Міжнародная акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцяў (са штаб-кватэрай у Берасці) і Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур Міністэрства культуры РБ. Шчыра скажу, у мяне было занадта мала часу, каб грунтоўна вывучыць дзейнасць прыгаданай Акадэміі нацыянальных меншасцяў (АНМ) і прыгаданага Цэнтра нацыянальных культур, але, *мяркуючы па канферэнцыі, людзі робяць* патрэбную справу і робяць яе някепска. Прафесійна. Прынамсі, арганізацыйных збояў я не заўважыў. Даслана на канферэнцыю было недзе 180 дакладаў. Больш за 80 аўтараў былі запрошаны і іх даклады ўключаны ў тэматычныя зборнікі, а зборнікі напярэдадні канферэнцыі выйшлі з друку.

Я маю сваю думку адносна таго, ці трэба нашым навукоўцам моцна засяроджвацца на клопатах нацыянальных меншасцяў Беларусі. Ім і так не кепска, чаго не скажаш пра карэнны народ краіны — беларусаў. Рэч у тым, што за кожнай нацыянальнай меншасцю Беларусі стаяць уплывовыя сілы замежжа, здольныя падтрымаць "сваіх" і маральна і матэрыяльна. За беларускім расійцам — Расійская Федэрацыя, за палякам — Польшча. Клапоцяцца аб сваіх суайчынніках за мяжою Украіна, Летува, Латвія. Прынамсі, расіец сёння ў Беларусі адчувае сябе больш камфортна, чым беларус, *асабліва ў святле "інтэграцыі" і перспектывы "адзінай дзяржавы"*.

У Гродне ў нейкім кіёску "Белсаюздруку" я пабачыў рускі алфавіт (ён прызначаўся ці то для старэйшай групы дзіцячага сада ці першага класа школы). Да алфавіта прыкладалася ўлётка прыблізна такога зместу: "Славный маленький друг, ты начинаешь изучать свой родной язык. Ты прочтешь много книг по истории своей Родины..." Далей быў зварот да бабуль і дзядуляў, каб яны дапамаглі ўнукам вывучыць "родной язык". Подпіс: "Министерство народного образования Республики Беларусь". З якога гэта часу руская мова стала ў Беларусі роднай і якую "Родину" маюць на ўвазе спадары з міністэрства?

Не памылюся, калі скажу, што адзіная этнічная група Беларусі, якой пагражае страта тоеснасці, — гэта самі беларусы. Не зусім карэктнай падаецца мне назва "Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур". У Беларусі адна нацыя — беларуская, адпаведна і нацыянальная культура — адна. Нацыя складаецца з некалькіх этнасаў пры дамінаванні карэннага, адпаведна і ў адзіную культуру ўваходзяць субкультуры розных этнічных, *канфесійных і сацыяльных груп. Не можа* быць некалькіх нацыянальных культур у межах адной нацыі, бо інакш гэта не нацыя.

Я адчуваю крэўныя сувязі з усімі беларусамі, дзе б яны ні жылі. Але беларусы Летувы — гэта частка летувіскай нацыі, беларусы Беласточчыны — частка польскай нацыі і гэтак далей.

Праўда, усё сказанае вышэй не ставіць пад сумнеў плён працы Акадэміі нацыянальных меншасцяў і Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур.

Работа на канферэнцыі вялася па чатырох секцыях: "Гісторыя ўзаемаўплываў культур беларуска-польска-літоўскага сумежжа", "Міжкультурныя ўзаемадзеянні і кантакты народаў беларуска-польска-літоўскага сумежжа", "Этналінгвістычныя асаблівасці беларуска-польска-літоўскага сумежжа" і "Пытанні рэгіянальнай адукацыі беларуска-польска-літоўскага сумежжа". Паколькі немагчыма адначасова быць у некалькіх секцыях, я выбраў секцыю мне найбольш цікавую ("Міжкультурныя ўзаемадзеянні"), а з астатнімі дакладамі азнаёміўся па надрукаваных у зборніках тэзісах.

Сярод тых, што найбольш запомніліся, — даклад Басі Нікіфаравай з Вільні (яна прадстаўляла Балтыйскі фонд менеджмента) "Памежжа як культурна-псіхалагічны феномен". Спадарыня Нікіфарава мяркуе, што разуменне "крэсы" шырэй, чым "памежжа" альбо "пограничье". Гэта своеасаблівы культурна-*геаграфічны феномен. На "крэсах" людзі*, жывучы на адным месцы, нікуды не з'язджаючы, на працягу жыцця аднаго пакалення паспелі некалькі разоў змяніць дзяржаўную прыналежнасць. Учора ты — "карэнная нацыянальнасць", заўтра — "нацыянальная меншасць". Альбо — наадварот. Такія трансфармацыі свайго стану ў розны час зведалі ўсе асноўныя этнасы "крэсаў" — беларусы, летувісы, палякі. Далей ішлі развагі пра "духоўнае гета" як сродак абароны, сродак стабілізацыі жыцця нацыянальнай меншасці. Але "духоўнае гета", як кожнае закрытае грамадства, баіцца не толькі суседзяў, але і самога сябе. Баіцца культурных кантактаў не менш, чым вайсковага нападу.

Ці можа быць памежжам не асобны рэгіён, а цэлая краіна? — было такое пытанне да сп. Нікіфаравай. Так, можа. Калі паміж дзвюма альбо болей моцнымі краінамі, якія маюць доўгую палітычную і культурную гісторыю, "затесалась", так бы мовіць, "*спрэчная тэрыторыя*", прызнаная Міжнароднай супольнасцю як суверэнная краіна. Такой краіне даводзіцца прыкласці вялікія намаганні, каб абараніць свой палітычны, эканамічны і культурны суверэнітэт.

Наступным быў даклад, які выклікаў найбольшыя спрэчкі, хоць сітуацыі нашага сумежжа датычыў ён толькі ўскосна. Спадар Бруна Бартц (Дуйсбургскі універсітэт, Германія) зрабіў даклад "Палітыка ў адносінах да нацыянальных меншасцяў у Еўропе". Гаворка, зразумела, ідзе пра Заходнюю Еўропу. Навуковец мяркуе, што пасляваенны расклад у Еўропе (ды, бадай, і ў свеце) не ўлічвае інтарэсы нацыянальных меншасцяў. Адсюль праблема баскаў, паўночных ірландцаў, курдаў, шэрагу народаў Югаславіі. Менавіта на памежжы ўзнікаюць канфліктныя сітуацыі. Сп. Бартц адзначыў, што не існуе адзінага рэцэпта, кожны выпадак патрабуе асобнага падыходу. Скажам, праблема нямецкай меншасці ў Польшчы ў вачах палякаў зусім не такая, як праблема меншасці летувіскай. Тое, што прыярытэтна для Германіі, неабавязкова мае такі ж сэнс для Польшчы. Навуковец канстатаваў: па-ранейшаму нацыяналь*ныя меншасці ў Еўропе не абароненыя*. У аб'яднанай Еўропе няма органа, які б мог шчыльна заняцца іхнімі праблемамі.

Стыхійна (калі я правільна зразумеў сп. Бартца) адбываюцца два працэсы: балканізацыя ("парад суверэнітэтаў" па-балканску) і гельветызацыя (аб'яднанне "памежных" нацыянальных меншасцяў па ўзору Швейцарыі).

У межах "старых" нацыянальных дзяржаў, кшталту Германіі, дзе здаўна існуюць "старыя" (гістарычныя) нацыянальныя меншасці (фрызы, сорбы) з'явіліся, пры фактычнай адсутнасці ў Заходняй Еўропе межаў, новыя. Сёння ў Германіі сур'ёзная праблема: так званыя "рускія" немцы (немцы з абшараў СССР і СНД) і туркі. Усе яны хочуць мець паўнавартаснае нямецкае грамадзянства, але ці гатовая сама Германія да такой ахвяры? Гэтак, глядзіш, у блізкім часе краіны Еўропы не будуць ужо адрозніваюца ад ЗША, Канады і Аўстраліі, дзе большасць насельніцтва, альбо эмігранты, альбо нашчадкі эмігрантаў.

У спрэчках па дакладзе прагучала думка, што Беларусі гэта праблема не датычыць. Усе гэтыя афра-азіяты, туркі, югаславы і яшчэ невядома хто імкнуцца стаць немцамі, адаптавацца да нямецкай культуры, вывучыць нямецкую мову. Між тым у Беларусі і іншых краінах, што аддзяліліся ад Масквы, прадстаўнікі колішняй "імперскай" нацыі не жадаюць прызнаваць сябе нацыянальнай меншасцю і, болей таго — нават не прызнаюць суверэнітэту краін, у якіх яны воляю лёсу апынуліся. Адсюль і вельмі спецыфічныя праблемы.

Сп. Бартц згадзіўся, што пры любым раскладзе ў Германіі застаецца нямецкая дамінанта, а на Беларусь праз рускую нацыянальную меншасць можа ажыццяўляцца ціск палітычны альбо яшчэ які. Але ж і праблема афра-азіятаў Беларусь наўрад ці абміне (асабліва пры фактычнай адсутнасці мяжы з Расіяй). У бліжэйшай суседкі Беларусі — Польшчы — такі клопат ужо ёсць...

Анатоль Ляўко разважаў аб асаблівасцях характару людзей сумежжа. На ягоную думку, маргінальнасць — гэта не адсутнасць культуры (як часам вульгарна трактуюць гэтую з'яву), гэта іншы тып культуры. Маргінальнасць — гэта магчымасць шырокага выбару. Сп. Ляўко лічыць, што сёння ў Беларусі пры распрацоўцы эканамічных праграм ігнаруюцца псіхалагічныя асаблівасці, уласцівыя жыхарам тых ці іншых рэгіёнаў. Так, навукаёмкая вытворчасць хутчэй паўстане на Гарадзеншчыне, чым на Віцебшчыне, дзе насельніцтва псіхалагічна зарыентавана болей на працу з зямлёю, на сельскую гаспадарку. Думка, мяркую, вельмі спрэчная. Пры сённяшніх маштабах міграцыі і велізарнай спадчыне савецкага эканамічнага валюнтарызму "саўкі" даволі раўнамерна "размеркаваны" па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Таксама сп. Ляўко перабольшвае значэнне канфесійнай прыналежнасці, увогуле ўплыў рэлігіі на сучаснага "постсавецкага" чалавека (бо яго дзесяцігоддзямі выхоўвалі на агрэсіўным атэізме). Рэлігія — рэч сур'ёзная. Нездарма ў той жа Гародні каталіцкія фэсты збіраюць народу куды як болей, чым палітычныя імпрэзы. Ды ўсё ж прагматызм нашага жыцця не пакідае царкве альбо касцёлу шанцаў на паўнавартаснае адраджэнне.

Андрэй Ракаў выказаў думку, што памежныя раёны, якія мы звыкла лічым зонаю патэнцыяльных канфліктаў, могуць быць зонаю плённых кантактаў і фактарам эканамічнага росту. Але для гэтага трэба, так бы мовіць, "дэідэалагізаваць" сумежжа. Не цягнуць у розныя бакі (царква — касцёл, Расія — Польшча), *не будаваць барыкады там, дзе патрэбны мост.*

Вячаслаў Оргіш бачыць у дыялагічнасці культур беларуска-польска-летувіскага сумежжа факт самаідэнтыфікацыі беларусаў. Думка слушная, менавіта на мяжы, у зоне кантактаў і канфліктаў прасцей высвятліць сваё нацыянальнае "я". Сп. Оргіш мяркуе, што Беларусь заўжды была скіравана на Захад. "Усходні вектар" навязваўся Беларусі гвалтам. На Усходзе папросту не было чаму вучыцца, што пераймаць.

Гэта, нагадаю, былі даклады, прачытаныя на адной з чатырох секцый. Тое, што я сам чуў. З астатнімі азнаёміўся па тэзісах у тэматычных зборніках. Наклад тых зборнікаў невялікі, але хто захоча, той знойдзе.

Наступную міжнародную канферэнцыю Акадэмія нацыянальных меншасцяў будзе ладзіць у верасні ў Мінску. Тэма балючая і, на жаль, актуальная — дэпартацыі.

Увесь свет — сумежжа. І ніводная краіна не можа быць гарантавана ад таго, што па яе жывым целе суседзі не правядуць мяжу. У 1920 годзе Польшча і Расія падзялілі Беларусь. У 1939 — СССР і Германія распалавінілі Польшчу. У 1945 — СССР і ягоныя заходнія *саюзнікі дзялілі Германію*. А сёння ўжо былы СССР падзелены на сферы ўплыву Захаду, Кітая, Японіі, краін ісляма.

На гродзенскай канферэнцыі пра Вялікае княства Літоўскае і Рэч Паспалітую гаварылі як пра эскіз, праўобраз сённяшняй аб'яднанай Еўропы. Сапраўды, продкі ў нас былі даволі талерантныя... Прынамсі, абыходзіліся без "варфаламееўскіх начэй". Але талерантнасць тая мела ў аснове баланс палітычных, эканамічных і культурных узаемаўплываў. Дастаткова было камусьці — праваслаўнаму альбо каталіку, "усходніку" альбо "заходніку" — атрымаць у чымсьці перавагу, адарваць болей правоў, як адразу забываліся на мараль.

І сёння беларуская "талерантнасць" трымаецца на тым, што на кожнага русафіла — па русафобу, на аматара пальшчызны — па ненавісніку Польшчы, на кожнага камуніста — па нацыяналісту. Гэта трымае грамадства ў пэўных рамках "мірнага суіснавання" але замаруджвае працэс фармавання нацыі. У той час, як нашы суседзі — расійцы, летувісы, палякі, латышы — даўно вызначылі свае нацыянальныя прыярытэты, будуюць і ўмацоўваюць свае нацыянальныя дзяржавы. Беларуская "неакрэсленасць", аморфнасць ужо сама па сабе правакуе суседзяў праверыць на практыцы, як глыбока яны могуць распаўсюдзіць свой уплыў на нашу краіну. Так бы мовіць, праверыць на нас моц свайго духу. Так што наша "талерантнасць" працуе супраць нас.

Беларуска-польска-летувіскае сумежжа... А можа, у святле апошніх палітычных падзей трэба ўжо гаварыць пра сумежжа Расіі і Еўропы? Такое ў гэтых мясцінах ужо калісьці было.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

***Тры гады таму вядомы сталічны журналіст Сяргей Крапівін зрабіў трапную заўвагу наконт галоўнага горада нашай краіны. "Для абсалютнай большасці сённяшніх мінчан, — адзначаў аўтар у "Народнай газеце", — гісторыя, якая ляжыць у іх пад нагамі, вобраз горада ўкладаюцца ў дзве зашмальцаваныя фразы: "Да рэвалюцыі ўскраіны Мінска патаналі ў гразі" і "Руіны страляюць ва ўпор". Больш нічога аб гэтай еўрапейскай сталіцы яны не ведаюць і ў лепшым выпадку ўспрымаюць сябе ў ёй, як у кватэры ў новым доме. Парадокс: двухсотгадовая Адэса, якая Мінску даводзіцца хіба што праўнучкай, у свеце вядома куды больш. Бляклыя мы нейкія — не-гіс-та-рыч-ныя".***

***Што праўда, то праўда. Тут, як кажуць, проста ў вока! Але ж пойдзем крыху далей і, цалкам далучыўшыся да згаданых высноў, паспрабуем хоць збольшага высветліць: чаму сённяшнія сталічныя жыхары, нашы сучаснікі такія, сапраўды, негістарычныя? Адразу адзначым, што асаблівай віны іх у гэтым няма. Нічога дзіўнага, бо незлічоныя прапагандысцкія выданні, дзе рабілася спроба хоць бы сяк-так асвятляць мінуўшчыну Мінска, працягам дзесяцігоддзяў нядаўняй гісторыі дружным хорам хлусліва сцвярджалі наступнае. Горад, па-першае, ніколі не быў вольным, спачатку ён знаходзіўся ў складзе Кіеўскай Русі, затым — пад уладай панска-шляхецкай Рэчы Паспалітай, і толькі ўз'яднанне Мінска ў 1793 годзе з Расіяй надало яму некаторыя стымулы для далейшага развіцця. Па-другое, да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі тут, як і паўсюдна, мела месца выключна "праклятая мінуўшчына", а мясцовыя працоўныя скрозь гаравалі ды бедавалі. А ці можна, скажыце, любіць і шанаваць мінуўшчыну, якая адназначна толькі "праклятая"? Натуральна, непазнавальна іншы тон раней панаваў на старонках тых жа выданняў, прысвечаных ужо савецкай гісторыі горада. На гэты раз літаральна ўсё малявалася ў светлых, ружовых фарбах, а бясконцыя разбурэнні гістарычнай гарадской забудовы агулам спісваліся на вынікі войнаў. Вядома, войны зусім не садзейнічаюць захаванню помнікаў. Але ж доўга-доўга глуха замоўчвалася, што большасць мінскіх помнікаў гісторыі і культуры бязлітасна знішчана не ў выніку войнаў, а менавіта ў мірны перыяд, у ходзе так званых горадабудаўнічых рэканструкцый, шырока распачатых з канца 40-х гадоў. З гістарычнай старой забудовы сёння у сталіцы цудам зберагліся па сутнасці толькі адзін Верхні горад (ды і то — фрагментарна) і мікраскапічныя астраўкі традыцыйнага драўлянага дойлідства, раскіданыя дзе-нідзе па былых мінскіх ускраінах.***

***Узровень вывучанасці сталічнай даўніны — адметны і, заўважым, беспамылковы індыкатар агульнага стану айчыннай гістарычнай навукі. Не варта, напэўна, даказваць, што дагэтуль у беларускай мінуўшчыне "белых плям", на жаль, больш, чым грунтоўна даследаванага. Таму вінаваціць цяперашніх мінчукоў у няведанні летапісу іх роднага горада аб'ектыўна не выпадае. А тым, хто хоча далучыцца да праўдзівай гісторыі беларускай сталіцы, найперш можна параіць цудоўную кніжку Захара і Сафіі Шыбекаў "Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада", два гады назад перакладзеную аўтарам гэтых радкоў на беларускую мову і выпушчаную ў свет выдавецтвам "Полымя".***

***А пакуль што прапануем чытачам "ЛіМа" нарыс, прысвечаны мінуламу нашай сталіцы.***

*МІНСКУ — 930!*

# "Можа быць названы сталіцай..."

Звычайна, калі заходзіць размова пра стары Мінск, у многіх цяперашніх мінчукоў перад вачыма з'явіцца знаёмы, трафарэтна-застылы малюнак — нядаўна адрэстаўраваныя, нібы казачна-цацачныя цагляныя дамкі Траецкага прадмесця на беразе сіняй Свіслачы. Часцяком толькі Траецкім прадмесцем уяўленні мінчукоў аб гісторыі роднага горада і абмяжоўваюцца. А як даўней выглядаў увесь горад? Што было тады вакол гэтых некалькіх мураваных кварталаў?

Падкрэслім: даволі сціплыя камянічкі Верхняга горада разам з сучаснай плошчай Свабоды (раней — Саборная) ніколі не вызначалі былых галоўных мінскіх абрысаў. Стары Менск з часоў незапамятных быў горадам амаль цалкам драўляным. Нават у блізкія нам першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі да з'яўлення першых мікраараёнаў Мінск яшчэ заставаўся горадам, дзе драўляная забудова пераважала.

Вядома, такое сцвярджэнне сустрэне мала прыхільнікаў, бо зараз паняцці "сталіца" і "драўляны горад" размешчаны зусім у розных параметрах, якія паміж сабой не стасуюцца. Таму скіруем свой позірк спачатку ў сівую мінуўшчыну.

Відаць, не стане выклікаць асаблівых пярэчанняў, што феадальны Менск у пару свайго "дзяцінства" быў горадам цалкам драўляным. Гэта абгрунтавана даказваецца аналізам скупых летапісных паведамленняў, вынікамі шматгадовых археалагічных даследаванняў, абагульненых, у прыватнасці, прафесарам Э. Загарульскім у кнізе "Древний Минск", якая выдавалася некалькі разоў. Праўда, дакладнае месцазнаходжанне горада да XI стагоддзя, калі ён пад 1067 годам у сувязі з крывавай бітвай 3 сакавіка на рацэ Нямізе ўпершыню згадваецца "Аповесцю мінулых часоў", не вызначана.

Але для нас у дадзеным выпадку не надта важна, адкуль, з якой геаграфічнай кропкі распачынае ўласны радавод стары Менск — ці з гарадзішча на прыгараднай сёння рэчцы Менцы, у раскопках якога разам з вядомым гісторыкам Міхасём Ткачовым восенню 1969 года браў удзел і аўтар гэтых радкоў, ці з раёна цяперашняй плошчы 8 Сакавіка. Галоўным нам падаецца тое, што на раскопках абодвух аб'ектаў сустракаліся рэшткі толькі аднаго будаўнічага матэрыялу — дрэва. Менавіта з яго ўзводзілася жытло гараджан летапіснага Менска, дрэвам масціліся тут і старадаўнія двары, вуліцы. З бярвенняў на спадзістых земляных валах будаваліся вартавыя вежы з брамамі, высокія сцены. На жаль, яны далёка не заўжды ратавалі жыхароў ад няпрошаных чужынцаў.

Летапісны і, падкрэслім, драўляны Менск у XI стагоддзі ворагі знішчалі двойчы: "у 1067-м, калі, як сведчаць дакументы, аб'яднаныя дружыны кіеўскага князя Ізяслава ўсіх мянян-мужчын перабілі, а іх жонак, дзяцей сілай захапілі ў палон, і ў 1087-м, калі з мячом сюды прыходзіў кіеўскі князь Уладзімір Манамах. Але бег час, горад паступова залечваў раны, адбудоўваўся на папялішчах. Вакол на абарончых валах зноў вырасталі сцены, вежы з магутных лясін.



*Брэсцкі вакзал Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, 1912 г. Драўляны будынак вакзала быў пабудаваны ў 1871 годзе. Згарэў у часы польскай інтэрвенцыі.*



*Саборная плошча з відам на гарадскі сквер (закладзены ў XIX стагоддзі). Цяпер — у цэнтры плошча Свабоды.*

Пазней, амаль чатыры стагоддзі летапісы мала асвятлялі жыццё сучаснай беларускай сталіцы. Магчыма, на самой справе гэта было інакш, проста тыя летапісы не захаваліся. З пісьмовых крыніц вядома, што ў 1104 годзе кіеўскія князі не змаглі захапіць Менск — магутную крэпасць на рубяжах самастойнага Полацкага княства, якому выпала пачэсная, слаўтая роля стаць калыскай беларускай дзяржаўнасці. Значыць, дапамаглі тады далёкім продкам адбіцца ад непрыяцеля драўляныя сцены іх роднага горада!

Акурат праз 880 гадоў пасля тых падзей, летам 1984 года археолагі з Інстытута гісторыі АН Беларусі пачалі раскопкі некалькіх пляцовак на сталічнай плошчы 8 Сакавіка. Каштоўныя і разнастайныя знаходкі, сабраныя вучонымі, далі магчымасць прачытаць шмат старонак мінулага, старонак забытых і зусім невядомых. Упершыню ў айчыннай практыцы была аднаўлена карціна паэтапнага будаўніцтва тут абарончага вала. Апрача таго, археолагі раскапалі ўязную драўляную браму, здабылі багаты рэчавы матэрыял, які сведчыць аб высокім узроўні жыцця гараджан. На раскапаных валах крэпасці — там, дзе некалі адбіваліся ад нашэсцяў абаронцы драўлянага Менска, — былі сабраны рэшткі ўзбраення і баявога рыштунку воінаў: лукі, жалезныя наканечнікі стрэл і дзідаў, сякеры, шпоры. Знайшлі і разнастайныя, вельмі дасканалыя вырабы тутэйшых майстроў... Падзеі, даўніной амаль у дзевяць стагоддзяў, прабіўшыся праз густую заслону часу, нагадалі нам аб сабе. На жаль, гэтыя надзвычай выніковыя раскопкі засталіся незаўважанымі сённяшнімі мінчука.мі. Уся інфармацыя аб іх абмежавалася толькі двума кароценькімі, даволі павярхоўнымі і заблытанымі паведамленнямі "Вечернего Минска". Але — што зробіш, тады яшчэ скрозь па ўсёй неагляднай краіне "до самых, до окраин" кіраўніцтва назойліва забівала людзям галовы новым "чароўным" словам — "перабудова!" Дзе ўжо тут да нейкай старасвецкай мінскай архаікі.

...Абарончым збудаваннем свайго роднага "места" (так летапісы называюць беларускія гарады) даўней надавалася значэнне выключнае. Інакш і быць не магло, бо звычайна ад гэтага залежала жыццё гараджан. Але драўляным гарадскім сценам, не зважаючы на іх магутнасць, пагрозлівы выгляд, нягледзячы на самаадданасць воінаў-абаронцаў, часта аказвалася не па сілах засланіць жыхароў ад бяды. У летапісе Красінскага (XVI стагоддзе) чытаем, што ў ходзе паўстання князя Свідрыгайлы (1432—1439) "Менско взяли и выжгли, и людей много в полон повели, мужей, жон, и много лиха учинивши князьству великому Литовскому, и пошли во свою землю Руськую". Таксама вядома, што крыху пазней, у 1505 годзе драўляны Менск зноў гарэў ад рук новых заваёўнікаў — крымскіх татар.

Сярод скупых гістарычных крыніц асаблівае месца займаюць нататкі падарожнікаў — людзей адукаваных і назіральных, чыноўных асоб з суседніх і вельмі далёкіх дзяржаў. Па волі лёсу яны не толькі на ўласныя вочы бачылі наш сённяшні галоўны горад у XVI—XIX стагоддзях, але занатавалі атрыманыя тут уражанні. Частка такіх справаздач падарожнікаў аб сваім знаходжанні на Беларусі даходліва абагульнена Валянцінам Грыцкевічам і Адамам Мальдзісам у цікавай кнізе "Шляхі вялі праз Беларусь", выпушчанай у 1980 годзе. Разам з іншымі адпаведнымі матэрыяламі, падабранымі намі, нататкі падарожнікаў малююць праўдзівы партрэт Мінска на розных этапах жыцця горада.

Падаецца слушным пункт гледжання шаноўных аўтараў названай кніжкі, якія адзначалі з грунтоўным веданнем справы, што замежныя падарожнікі надавалі Менску куды больш увагі, чым астатнім гарадам Беларусі, бо ён "знаходзіўся ў цэнтры краю, сюды зыходзіліся многія шляхі. Таму тут гасцявалі амаль усе, хто ездзіў з Брэста, ці з Вільні на Смаленск і Маскву.

Адным з першых пакінуў свае пісьмовыя назіранні пасля непрацяглага наведвання ў XVI стагоддзі нашай сучаснай сталіцы рускі дзяк (дзяржаўны чыноўнік) Трыфан Карабейнікаў. У адрозненне ад некаторых замежных сваіх папярэднікаў, якія часта карысталіся недакладнымі звесткамі, атрыманымі з чужых рук, ён "расказваў толькі аб тым, што бачыў на ўласныя вочы". Таму сведчанні дзяка заслугоўваюць самай пільнай увагі. Карабейнікаў пабываў на Беларусі ў 1593 годзе. Вось як ён апісаў Менск: "драўляны... у некаторых месцах сцены разбураныя, а рака... меншая за Яўзу.., а пасад — з Вязьму".

Праз дзесяць гадоў пасля Карабейнікава ў складзе пасольства Свяшчэннай Рымскай Імперыі Беларусь наведаў Георг Таквандэр фон Ябель, які адзначыў, што "Мінск увесь пабудаваны з дрэва". Звярніце, калі ласка, увагу: горад названы тут "Мінскам", але так пісалі даўней толькі аўтары, што карысталіся лацінкай.

Пры аднаўленні агульных абрысаў сярэднявечнага Менска нельга абмінуць і сведчанні Аляксандр Гваніні, зробленыя раней за Карабейнікава і фон Ябеля. Два словы пра гэтага чалавека, які праўжыў насычанае рэзкімі паваротамі лёсу жыццё.

*(Працяг на стар. 12)*

кніжку... Але не ў тым справа. Савецкі — той, каго савецкая ўлада карміла і ўзносіла, і той, каго расстрэльвала?

**С. Вераціла.** Падчас "першай галоснасці" была дыскусія наконт творчасці Міхаіла Булгакава. Палемісты падзяліліся, як сапраўдныя бальшавікі, па пытанні, прымаў Міхаіл Булгакаў савецкую ўладу ці не прымаў? Крытык Маргарыта Чудакова наконт гэтай палемікі сказала так: "Если говорить на языке междометий, то "да" Булгакова звучало примерно так: "Да-а-а-а..." Дык вось, сярод беларускіх пісьменнікаў нават такіх не знаходзілася.

**У. Конан.** А вы ведаеце, што з беларускіх пісьменнікаў амаль 80 працэнтаў савецкія ўлады расстралялі?

**Л. Рублеўская.** Карацей, калі Валянцін Акудовіч часам сцвярджае, што яго няма, то паводле Сяргея Вераціла няма нічога — ні беларускай літаратуры, ні беларускіх пісьменнікаў, ні Мінска, як сталіцы, ні Беларусі, як дзяржавы.

**У. Конан.** А я ў такім выпадку кажу, што нават калі захаваюцца два беларусы, можна адрадзіць беларускую нацыю — паглядзіце ў Біблію: ад каго чалавецтва пайшло — ад дваіх.

**Л. Рублеўская.** У высновах Сяргея, пэўна, ёсць такі падтэкст: беларускіх пісьменнікаў няма, а вось пісьменнікі, накшталт яго самога, ёсць. Толькі каму і дзе такія пісьменнікі патрэбныя?

**С. Вераціла.** Мы анікому і нідзе непатрэбныя.

**У. Конан.** Я ўпершыню чую, каб так агульна гаварылі. Нават філосафы так не гавораць.

**С. Вераціла.** Вось тое, што ты, Людміла, пішаш, для беларускай "вертыкалі" патрэбнае?

**Л. Рублеўская.** Калі ты, Сяргей, для "вертыкалі" пішаш, цябе, можа, і закранае такое пытанне, для цябе гэта важна. Ні адзін беларускі пісьменнік для чыноўнікаў не піша.

**Ю. Гумянюк.** Уявім сітуацыю, што ўсе выданні пазбыліся дзяржаўнай датацыі. Яны ўсе "лясну́цца", і вельмі хутка.

**В. Чаропка.** Часопіс "Спадчына", аднак, не "ляснуўся".

**У. Конан.** У мяне пытанне: а што, літаратура існуе толькі ў газетах і часопісах, а без іх яна не можа? Пачынаючы з "Бібліі", літаратура існавала і да пачатку кнігадрукавання. Трагедыі Эсхіла і Сафокла — што, не існавалі?

**С. Вераціла.** Гэтыя трагедыі ставіліся ў Афінах, дзе жыло 40 тысяч свабодных грамадзян, з іх хадзіла ў тэатры тысяч трыццаць. Больш ніякіх "развлечений" не было, адно гладыятарскія баі. Да кнігадрукавання літаратуры не было, была магія.

**У. Конан.** А можа быць, сапраўдная літаратура знікла, калі з'явіліся масавыя часопісы і газеты, другія сродкі масавай інфармацыі? Успомнім Германа Гесэ. На пачатку нашага стагоддзя ён гаварыў пра фельетонную культуру.

**С.** Вераціла. А сам Герман Гесэ — хіба не фельетон, які разросся да памераў рамана? Прымусілі б яго высякаць свае творы на скале, ён бы высек тры слоўцы і ўсё... Пытанне — у ганарарах. Мулат Дзюма што рабіў: калі яму сталі плаціць не за словы, а за радкі, ён пачаў насычаць свае творы такімі дыялогамі:

"— ...

— ?

— ...

— !" — і на паўстаронкі.

**Ю. Гумянюк.** Калі гаворка зводзіцца да агульных пытанняў, мы адыходзім ад канкрэтыкі. Трэба зарыентавацца на сучасным момансе.

**С. Вераціла.** Маргінальныя людзі застаюцца на маргінальных гаворках. Беларус — маргінальная істота, ён заўсёды на мяжы.

**У. Конан.** Алесь Разанаў таксама піша, што ён, як паэт, заўсёды на мяжы. Мяжа можа быць між быццём і небыццём.

**С. Вераціла.** Разанаў — таксама маргінальная істота. Горад толькі пачынае ў нас нараджацца. Мы ўсе "інцылягенты" ад слова "цялега".

**Ю. Гумянюк.** Нам самім трэба дбаць пра літаратурны працэс. Ён залежыць ад саміх літаратараў. Менавіта арганізацыяй літаратурнага працэсу і займаецца новая генерацыя беларускіх пісьменнікаў. Канцэпцыя "сталіца — рэгіён" парушылася.

**Л. Рублеўская.** Мінск страціў статус літаратурнага цэнтра, бо выдацца тут намнога цяжэй, чым у правінцыі. Прычым у рэгіянальных выдавецтвах кніжкі часам выходзяць на добрым паліграфічным узроўні, з імі ўступаюць у Саюз пісьменнікаў, пра іх друкуюцца рэцэнзіі ў "цэнтральнай" прэсе, і атрымліваецца паўнавартасная канкурэнцыя дзяржаўным выдавецтвам.

**Ю. Гумянюк.** Я жыву ў Гародні, а мае дзве кніжкі выйшлі ў Полацку, атрымалі розгалас. Але я не маю жадання ўступаць у Саюз пісьменнікаў.

**У. Конан.** Саюз пісьменнікаў страціў свае пазіцыі галоўным чынам таму, што ён не можа сур'ёзна дапамагаць. Калі ён даваў магчымасць месяц пажыць у Доме творчасці дзесь на моры, пасласць у камандзіроўку за мяжу — была іншая справа. Але саюзы пісьменнікаў ёсць ва ўсіх краінах, у Польшчы іх некалькі.

**Л. Рублеўская.** Я некалі чытала ўспаміны Данііла Граніна пра наведванне ім Аўстраліі па запрашэнні Саюза аўстралійскіх пісьменнікаў. Аказалася, тамтэйшы саюз месціцца ў адным бедным пакойчыку, а ўся дакументацыя — журнал, дзе запісаныя сябры гэтага саюза.

**У. Конан.** Тут я вам запярэчу. Саюз пісьменнікаў павінен быць багатай арганізацыяй, каб дапамагаць пісьменнікам.

**Л. Рублеўская.** І тут я з вамі абсалютна згодная. Але пры размове пра літаратурныя сталіцы і рэгіёны мы не павінны забывацца пра Беласточчыну, амерыканскую дыяспару. І пра тое — мусіць, гэта ўласцівасць нашай беларускай ментальнасці, — што кожны з літаратурных рэгіёнаў, асабліва замежных, адчувае сябе цэнтрам і супрацьпастаўляе нейкім чынам сябе цэнтру афіцыйнаму, г. зн. прадукцыі дзяржаўных выдавецтваў і літаратурным выданням, што выходзяць у Мінску. Адсюль і ўзнікае правінцыйнасць. У сваім раёне пісьменнік — зорка: яго друкуюць, выдаюць на спонсарскія грошы, ладзяць яму творчыя вечарыны раённага маштабу, і, зразумела, ён не сустракае ніякай канструктыўнай крытыкі, і творчы рост яго спыняецца. Таму і ўзнікаюць крыўды і непаразуменні, калі сталічны рэдактар раптам пачынае правіць такога правінцыйнага "мэтра".

**Ю. Гумянюк.** Суполкі ўзнікаюць не столькі па рэгіёнах, колькі "па інтарэсах". Таварыства вольных літаратараў, напрыклад, гэта і кола "Нашай Нівы", і кампанія Глобуса. Для сучаснага літаратара, я лічу, дастаткова не літінстытута, а філалагічнага факультэта. А што тычыцца тых правінцыйных аўтараў, пра якіх гаварылася, то мала што іх выдалі — а хто іх будзе купляць? Дзе там, у райцэнтрах, інтэлігенцыя?

**Л. Рублеўская.** У раённых паэтаў чытачоў, мабыць, больш, чым у тых, хто выдаецца ў сталіцы. Тут выходзяць кніжачкі накладам у 400 паасобнікаў і ляжаць па кнігарнях. А там выдадуць тым жа накладам, але іх усе раскупяць, усе прачытаюць, і будуць ганарыцца аўтарам — сваім земляком.

**Ю. Гумянюк.** Але яны не стануць фактам літаратуры.

**У. Конан.** Літаратура ствараецца для вечнасці, і тое, што з сённяшніх твораў не мае вядомасці, праз сто гадоў можа быць вядомае ўсім. І месца напісання і выдання для гісторыі літаратуры не мае значэння.

**С. Вераціла.** Макферсан ні разу не быў ні ў Глазга, ні ў Лондане, але ўся Еўропа "тащилась" ад яго "Песень Асіяна". Роберт Бернс увогуле зямлю араў. У літаратуры колькасць не пераходзіць у якасць. Існуе шмат маленькіх народаў, у якіх ёсць вялікая, развітая літаратура. Успомнім хоць сабе індзейцаў чэрокі. Індзеец Секвойя прыдумаў алфавіт для чэрокі, хаця сам не ўмеў чытаць па-англійску. Яго імем назвалі дрэва — секвойю. І ў чэрокі, якіх усяго 20 тысяч, існуе паўнавартасная чэрокская літаратура. Калі б тут, на Беларусі, было задушана ўсё беларускае, Беларусь была б на Беласточчыне. Сто дваццаць тысяч беларусаў, што жывуць там, намагаліся б працаваць за неіснуючыя дзесяць мільёнаў.

**У. Конан.** Але самі яны думаюць інакш, і лічаць, што стваральныя імпульсы ідуць адсюль.

**Л. Рублеўская.** А я нядаўна прачытала ў беластоцкай "Ніве", што сотні тысяч беларусаў Беласточчыны, якія цікавяцца беларускай культурай, — міф. Іх там не сотні тысяч і нават не дзесяткі, а значна менш, і колькасць гэтая рэзка скарачаецца. І каб не было літаратурнай Беларусі тут — ці была б тая літаратурная Беласточчына?

**У. Конан.** Дарэчы, Сакрат Яновіч узнагароджаны ордэнам за адраджэнне Польшчы.

**С. Вераціла.** І гэта нармальна. Калі б Беларусь знікла, сабраліся б пяць беластоцкіх беларусаў і стварылі б міф пра ідэальную Беларусь, раскруцілі б яго... Прыклад — заставалася ўсяго тры габрэі, што ведалі іўрыт, а зараз у Ізраілі на ім гаворыць шэсць мільёнаў.

**Л. Рублеўская.** Цікава было б некалі праанлізаваць нядаўнюю спробу стварэння беларускага літаратурнага рэгіёна ў Вільні, і фактычна новай літаратурнай сталіцы там, калі туды пераехала некалькі таленавітых літаратараў, адрадзілася "Наша Ніва"... І чым гэтая спроба закончылася.

**У. Конан.** Спроба праваліласся.

**С. Вераціла.** Таму што была штучнай.

**В. Чаропка.** Але ж "Наша Ніва" існуе?

**Ю. Гумянюк.** "Наша Ніва" робіцца ў Мінску.

**В. Чаропка.** У Вільні маглі гэты праект паўнавартасна ажыццявіць толькі віленскія беларусы.

**Л. Рублеўская.** Ну, напэўна, гэта тэма для іншай "Гарбаты", а гэтую гутарку дазвольце перапыніць і даць слова нашаму завочнаму суразмоўцу. Вось што напісаў з гэтае нагоды Навум Гальпяровіч:

"Па маім глыбокім перакананні сам тэрмін "правінцыйнасць" у дачыненні да пэўнага віду мастацтва — гэта прыкмета, дакладней, хвароба росту. І чым больш мы даказваем адзін аднаму нейкія ісціны ў гэтай тэме гаворкі, тым больш засведчваем, што так яно і ёсць. Бо, з аднаго боку — высакамернае паблажлівае паляпванне па плячы сваіх несталічных калег, а з другога — настойлівае і крыху нахрапістае супрацьстаянне так званых "рэгіянальных эліт".

Іншая справа, што гэтае дзяленне паранейшаму выгаднае абодвум бакам: адным, каб сцвердзіцца ў сваёй выключнасці і перавазе, другім — каб звыкла "паплакацца ў камізэльку", што, маўляў, заціскаюць, не даюць ходу. І прыкладаў гэтага нямала.

Прызнаюся шчыра, і мяне крыху зацягнула было ў вір гэтай праблематыкі. Таму, ствараючы, скажам, філію абласнога (падкрэслю, абласнога) аддзялення Саюза пісьменнікаў, працуючы над выпускам дзвюх першых кніжак альманаха "Край", гарэў жаданнем даказаць, што і ў так званай правінцыі можна ствараць цікавыя творы, рабіць значныя справы, рабіць свой важкі ўнёсак у агульны набытак.

Ды жыццё, як заўсёды, мудрэйшае за схемы і канцэптуальныя пабудовы. І аказалася, што ёсць гэтая правінцыйнасць там, дзе прыніжана патрабавальнасць да сябе, там, дзе не дацягваецца інтэлектуальны, духоўны ўзровень. І, наадварот, — упэўнена і досыць камфортна можа адчуваць сябе той, хто не зважае, ці хаця б стараецца не зважаць на прыдуманыя аўтарытэты, на акалічнасці, звязаныя з патрэбай мітусіцца ў колах і вакол колаў, ствараючы сабе іміджк, робячы "раскрутку" і г. д.

Я не буду казаць пра класічныя прыклады з сусветнага вопыту, калі, скажам, "правінцыялы" Фолкнер, Кінг, Зюскінд або Астаф'еў далі, як гаворыцца, фору наведвальнікам сталічных тусовак. Я спашлюся на нашыя кволыя парасткі ў гэтым сэнсе і засведчу яшчэ раз, што імёны, скажам, У. Калесніка, А. Пысіна, М. Купрэева, Н. Мацяш, Д. Бічэль, М. Пракаповіча, А. Каско, І. Жарнасек, М. Дуксы, А. Жыгунова, В. Мудрова, Л. Сом, А. Аркуша, С. Шах упрыгожваюць нашу літаратуру куды больш, чым цэлыя тузіны іх калег, якія снуюць па калідорах рэдакцый ці саюзаўскіх кабінетах.

А яшчэ аказалася, што ў нашых гарадах можна і прыстойныя кніжкі выдаваць, і цікавыя імпрэзы праводзіць, і розных славутасцяў сустракаць на роўных.

Але нешта ўсё ж шчыміць і цісне, вярэдзіць розумы, і праблема, якой ужо даўно няма ў цывілізаваных краінах, турбуе многіх і выклікае палеміку, жаданне нешта даказаць.

І віной гэтаму мы самі, наша інерцыя, нашыя кланавыя і мястэчковыя пыхі, наша агульная правінцыйнасць і, як казаў некалі Іван Антонавіч Брыль, таўкачаватасць.

Пры ўсёй смеласці поглядаў і сучаснасці, пры ўсёй талерантнасці і прагрэсіўнасці многія мае калегі і сябры па-ранейшаму адчуваюць у душы комплекс "старэйшага брата" ў дачыненні да тых, хто жыве не ў сталіцы, і нават у тых захопленых водгуках, якія яны пішуць пра так званых "правінцыялаў", любяць падкрэсліваць менавіта геаграфічную акалічнасць, быццам здзіўляючыся, што ў Светлагорску ці ў Наваполацку можна быць глыбокім, змястоўным, цікавым творцам.

А такая маленькая дэталь, як абавязковае ўказанне адрасу пражывання пасля артыкула ці апавядання, нізкі вершаў ці публіцыстычнага выступлення! Дык давайце тады ставіць пад іншымі матэрыяламі, як гэта робіцца, дарэчы, у "Першацвеце", слова Мінск, і будзем стракатаць у тым жа "ЛіМе" геаграфічнымі назовамі нашай дарагой Бацькаўшчыны.

Магчыма, якраз у гэтай апошняй заўвазе і праявіўся хваравіты комплекс, але ж у нашых варунках ён мае пад сабой падставу, як, скажам, і тое, што ў тых жа анкетах, шматлікіх апытаннях, інтэрв'ю, "круглых сталах" яго арганізатары не даходзяць да тых, каму, перш чым затэлефанаваць, трэба набраць код патрэбнага горада. А яшчэ — і нежаданне парой сур'ёзна палемізаваць, баючыся хіба што пакрыўдзіць...

Дзеля справядлівасці скажу, што ў даволі значнай часткі "правінцыялаў" назіраецца іншая хвароба: "вы адламіце нам нешта ад свайго пірага, мы не гордыя. А што да творчасці, то вам лягчэй: вы бліжэй да кармушкі, а ў нас сям'я, дзеці, надзённыя справы..."

А яшчэ: "Хай там яны піхаюцца, іх шмат, а я тут — першы хлопец (дзеўка) на вёсцы, чаго ж мне вытыркацца".

Бедныя мы, бедныя!.. Колькі яшчэ дробязных, амбіцыйных праблем, колькі самалюбавання і самадастатковасці, калі трэба дбаць пра само існаванне духоўнасці і культуры... А замест яднання менавіта па гэтых прынцыпах — сыканне і пляткарства, дзяленне на "сваіх і чужых", дробязнае і непрынцыповае супрацьстаянне.

Не будзе гэтага, ці, прынамсі, будзе значна менш, сённяшняя спрэчкі аб правінцыйнасці ці неправінцыйнасці ў літаратуры адпадуць самі сабой, бо крытэрый для любога творцы заўсёды адзіны. Як, дарэчы, і пры вызначэнні яго месца ў агульным працэсе і ў гісторыі."

# Таямніцы, прыадчыненыя з веданнем

Бадай, заўсёды нязменнай папулярнасцю карысталася ў чытачоў навукова-пазнавальная літаратура. Асаблівы поспех яна мела ў тых, хто толькі ўваходзіць у самастойнае жыццё і жадае як мага хутчэй і глыбей зразумець яго шматлікія таямніцы. Ці трэба сумнявацца ў сувязі з гэтым, наколькі важная ў дадзеным выпадку роля выданняў на роднай мове? Яны ж не толькі спатаяюць смагу па нязведаным, а і дапамагаюць зразумець харáство слова, якое ўпершыню загучала з вуснаў маці. Дарэчы, у дваццатыя — трыццатыя гады падобным кнігам у нас надавалася вялікая ўвага. Дзяржаўнае выдавецтва БССР ахвотна выпускала іх і значную частку займалі перакладныя з іншых моў. Творы адпаведнай тэматыкі часта і рэгулярна публікаваліся і ў дзіцячай перыёдыцы. А цяпер?

На шчасце, і цяпер ёсць людзі, якія не забываюць пра гэтую добрую завядзёнку. Дзякуючы намаганням дырэктара выдавецтва "Юнацтва" В. Лукшы штогод выходзіць нямала кніг, адрасаваных юным чытачам рознага ўзросту. Прынамсі, для малодшых з іх "Юнацтва" выдае цэлую "Бібліятэку - навукова-пазнавальнай літаратуры". Гэтая серыя была заснавана яшчэ ў 1988 годзе. Поруч з аўтарскімі кнігамі ў ёй практыкуецца і выпуск штогодніка "Эўрыка".

Нядаўна пабачыў свет чарговы з іх. Ён, як і папярэднія, змястоўны і цікавы. У гэтым лёгка ўпэўніцца, перагарнуўшы старонкі кніжкі. Першым у ёй змешчаны артыкул доктара мастацтвазнаўства Р. Смольскага "Люстэрка свету і чалавека", прапанаваны ў раздзеле "Старонкі гісторыі". А знаёміць слынны аўтар юных чытачоў з найбольш старажытным відам мастацтва — тэатрам. Пры гэтым дазваляе зазірнуць ім і ў самую глыбокую даўніну, "апынуцца" ў Старажытнай Грэцыі, а таксама пабываць у іншых краінах. Але, канечне ж, найбольш падрабязна расказвае пра беларускі тэатр — ад яго вытокаў да сённяшняга дня.

Прывабным атрымаўся і раздзел "Пошукі, адкрыцці, знаходкі". Кандыдат геолага-мінералагічных навук Г. Емяльянаў выступае тут з двума артыкуламі — "Беларускі бурштын" і "Каменны дождж". Пра змест першага ўжо відаць з яго назвы, а ў другім дапытлівых хлопчыкаў і дзяўчынак чакае падарожжа ў касмічную прастору, каб адтуль спусціцца на грэшную Зямлю. "Каменны дождж" нішто іншае, як метэарыты, якія, як вядома (і на шчасце!), не ўсе дасягаюць нашай планеты, але вывучэнне іх дапамагае лепшаму тлумачэнню розных з'яў з жыцця Сонечнай сістэмы, а таксама вывучэння шляхоў яе развіцця. У гэтым жа раздзеле надрукаваны і артыкул член-карэспандэнта Беларускай інжынернай акадэміі М. Лібінтава "Цудоўныя кладоўкі прыроды". А шукаць іх далёка няма аніякай патрэбы. Такімі "кладоўкамі" з'яўляюцца самыя звычайныя беларускія азёры. М. Лібінтаў расказвае пра найбольш цікавыя з іх, а яшчэ пра тое, якую карысць для народнай гаспадаркі ўяўляе каштоўны азёрны глей — сапрапелі.

Змест жа раздзела "Гэта цікава" склалі вытрымкі з "Чырвонай кнігі Беларусі" — свайго роду акно ў свет прыроды, згадкі пра рэдкія расліны, якія патрабуюць аховы.

На завяршэнне ж "Эўрыка" прапануе "Парады Дамавічка". А яны такія, што часам і дарослым не лішне пазнаёміцца. Напрыклад, як зрабіць, каб звычайная шклянка стала музычнай і "зайграла", або як "перакапіраваць здымак з газеты"... І як шмат яшчэ што зрабіць, дзеля чаго неабходна праявіць кемнасць, а ў гэтым і дапамагае Дамавічок.

Чарговы выпуск "Эўрыкі" атрымаўся не толькі змястоўным, а і прыгожа аформленым, у чым заслуга мастака М. Рыжага.

**А. М.**

## Школьнікам будзе цікава

"Школьная бібліятэка" папоўнілася яшчэ адным творам — раманам вядомага польскага пісьменніка Генрыка Сянкевіча "Крыжакі". Гэты твор упершыню выдадзены на беларускай мове. Пераклад, прадмова і каментарыі Міхася Кенькі. Кніга будзе цікавай не толькі для вучняў, але і для настаўнікаў. У прадмове да яе згадваецца пра жыццёвыя і творчыя стасункі Генрыка Сянкевіча з Беларуссю, пра вартасці і недахопы рамана, Гапавядаецца пра тое, што Грунвальдская бітва была векапомнай падзеяй у гісторыі не толькі польскага, але і беларускага народа, як і іншых народаў Усходняй Еўропы.

Кніга выдадзена вытворча-камерцыйнай фірмай "Асар".

М. МІХАЙЛАВА

## Хто шукае, той... адкрывае

Чытачоў, па-сапраўднаму зацікаўленых гісторыяй нацыянальнай літаратуры, несумненна прывабіць музычная драма М. Чарота ў трох актах "На Купалле", што адкрывае трэці нумар часопіса "Тэатральная творчасць". Праўда, сёй-той скажа, што гэты твор ужо недзе сустракаў. І не памыліцца. "На Купалле" публікавалася ў другім нумары часопіса "Полымя" за 1982 год. Але то быў тэкст, узноўлены паводле ўспамінаў старых беларускіх акцёраў К. Пуроўскага і К. Кулакова. Цяпер жа дзякуючы М. Віжу (з яго прадмовай "Неспадзяваная знаходка") змешчаны арыгінал, знойдзены ім у архіве.

Пра пакаленні купалаўцаў і іх акцёрскія лёсы разважае А. Сабалеўскі — "Зоркі мусяць свяціць". В. Грыбайла ("У люстэрку свята") знаёміць з міжнароднай навукова-творчай канферэнцыяй "Беларускае акцёрскае мастацтва: шляхі станаўлення і развіцця ў кантэксце еўрапейскіх сцэнічных культур".

Змешчана справаздача са з'езда Беларускага саюза тэатральных дзеячаў — "Чарговы з'езд юбіляра". Пра жыццё Гомельскага абласнога драматычнага тэатра разважае ў артыкуле "Астравок стабільнасці ў бурлівым акіяне" Т. Гаробчанка. Жыццёвы і творчы шлях драматурга В. Шашалевіча ў цэнтры ўвагі А. Марціновіча ("У пошуку жывых характараў").

У. Мамонька ("І ў вучобе бываюць святы") запрашае ў Беларускі універсітэт культуры, а Я. Адамовіч ("Водар сцэнічнага хараства") — у госці да чэрвеньскіх тэатралаў.

Прапануюцца пачатак нарыса Г. Герштэйн "Шляхі Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра Беларусі", працяг успамінаў Н. Карнеевай "Жыццё актрысы", падборкі "Пасля спектакля", "Хроніка", "У друку", "Летапіс".

## Ёсць у глыбінцы тэатр

Шмат гадоў кіруе самадзейным тэатрам у Капаткевічах бібліятэчны работнік Ніна Піліпаўна Алексіевіч. За гэты час ажыццёўлены дзесяткі цікавых пастановак. Пераважна беларускіх драматургаў. Калектыў удастоены ганаровага звання — "народны". Умовам работы мясцовых артыстаў можна пазайздросціць — у іх ёсць сваё памяшканне, свая сцэна.

Для рэжысёра стала няпісаным правілам — штогод рабіць па адной прэм'еры. Вось і нядаўна тут адбыўся першы паказ камедыі вядомага драматурга Анатоля Дзялендзіка "Султан Брунзя". Асабліва ўразіла прысутных ігра Віктара Цылько, Надзеі Якімавай, Ірыны Усавай, Уладзіміра Дворака, Валерыя Арыновіча і вучня сярэдняй школы Міколы Шута. Мастацкае афармленне зрабіла рэжысёр па адукацыі Надзея Якімава, музычнае афармленне — выкладчыц дзіцячай музычнай школы Аксаны Міцуры і Алены Шпігановіч.

А. ЛІСІЦКІ.
*Петрыкаўскі раён*

# "І прыйдзе новых пакаленняў..."

Паблізу санаторыя "Рудня" ў маляўнічай мясціне размешчаны Дом адпачынку "Лагойскі": некалькі летніх дамкоў, сталоўка, клуб, арэлі... Тут — ужо трэці раз — збіраліся маладыя паэты Міншчыны. Такія злёты праводзяцца праз год намаганнямі абласной бібліятэкі імя Пушкіна, аддзела культуры Лагойскага выканкама і ЦБС пры ўдзеле Купалаўскага музея. З боку ўдзельнікаў прагучала пажаданне збірацца і штогод, але дырэктар абласной бібліятэкі, душа гэтых паэтычных святаў Наталля Чуева выказалася так:

— Паэты не растуць, як грыбы, кожны сезон. Павінен прайсці пэўны час, пакуль падрастуць і выявяцца новыя таленты. Інакш мы будзем увесь час збіраць адных і тых жа.

Пагодзімся, што ў такім меркаванні ёсць праўда. І парадуемся таму, што менавіта першая публічная бібліятэка горада Мінска стала ініцыятарам добрай справы.

У былога начальніка аддзела культуры, паэта Антона Навіцкага, які нядаўна пайшоў на павышэнне і наведаўся сюды ўжо ў якасці намесніка старшыні райвыканкама, іншая прапанова:

— А чаму б не пашырыць наш маленькі семінар да рэспубліканскага, не далучыць здольную моладзь з іншых абласцей?

Усе пагадзіліся, што думка заманлівая, але пакуль не падмацаваная фінансава.

Дзеля асноўнай часткі злёту — паэтычнага семінара — удзельнікі падзяліліся на дзве групы (кіраўнікі — С. Законнікаў, А. Пісьмянкоў). Казалі, што ў адной з іх болей было дэмакратыі: выказваліся самі пачаткоўцы, раз-пораз усчыналася дыскусія. Безумоўным лідэрам семінарскіх заняткаў стаўся літаратурна-музычны клуб "Каўчэг" з Барысава. Сталым паэтам паказаў сябе Сяргей Рабчун з Плешчаніц. Перспектыўнымі падаліся першыя спробы пяра Алеся Нінькі (ён перасяленец з Хойніцкага раёна), Юрыя Шыціка (Мінскі раён), Алены Казлоўскай (Маладзечанскі раён), Таццяны Шахлевіч (Слуцк), Аляксея Чубата (Вілейка), Ані Тур (Валожын), Вольгі Лелюковай (Старадарожскі раён), Вольгі Батуры (Маладзечна), Зоі Сімагасціцкай (Узда) і іншых.

Заключным акордам злёту стала наведванне купалаўскіх мясцін і літаратурнага музея ў Акопах, а таксама імправізаваная вечарына ў пустой клеці. За сценамі, што бялелі абчасанымі бярвеннямі, шумела непагадзь, гнуліся дрэвы, а тут панавала Яе Вялікасць Паэзія. Тон задавала, безумоўна, паэтка і супрацоўніца музея Янкі Купалы Антаніна Хатэнка. Прыгожым дадаткам да вершаў сталі песні вядомых бардаў Алега Камоцкага і Алега Атаманава, цёплую прамову сказала дырэктар музея Жана Дапкюнас.

Пасля ўсяго пачутага, прапушчанага праз сэрца неяк па-новаму ўспрыняліся словы класіка: "І прыйдзе новых пакаленняў на наша месца чарада..."

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**



### Ігар СІРОТКІН

•

*Нам ніякіх багаццяў не трэба,*
*Толькі б выйсці, зірнуць на палі,*
*На прасторы бясконцага неба,*
*На красу нашай роднай зямлі.*

*Ды на плынь нашых рэчак блакітных,*
*На дрымучасць імшыстых балот,*
*Дзе з прыродаю блізка і злітна*
*Жыў заўжды беларускі народ.*

*Пахадзіць па дарогах бясконцых,*
*Ля якіх зеляненюць бары —*
*Там, дзе промні рассыпала сонца*
*І дзе птушкі пяюць угары.*

*Паблукаць па прыціхлых узлесках*
*З аднаго да другога сяла,*
*Па той вузкай, закінутай сцежцы,*
*Што дарогай для продкаў была.*

Мядзельскі р-н

### Таццяна ЦВІРКА

## Пра мову

*Чаму я мову гэтую абрала?*
*Пытання, мабыць, не знайду лягчэй.*
*Мяне матуля "донечкаю" звала*
*з выразным цвёрдым беларускім "чэ".*

*Чаму я мову гэтую абрала?*
*На ёй мне казкі бае вецярок,*
*на ёй салоўку ўлетку падпявала*
*пра "аксамітны зорны" вечарок.*

*Чаму я мову гэтую абрала?*
*У творчы свет з яе пляту вянок.*
*Яе ўслаўлялі Колас і Купала,*
*на ёй гаворыць чыста мой сынок.*

## Чытаючы Максіма Танка

*Заблуджуся ў творчым, мудрым лесе,*
*і спяшыць не буду выбірацца.*
*Водарам цудоўных, дзіўных песень*
*цэлы вечар буду наталяцца,*
*Беларусь пабачу і замежжа,*
*шчасцю закаханых падзіўлюся,*
*а на развітанне, як належыць,*
*Танкаўскаму свету пакланюся.*

•

*Дрэва корань пускае*
*глыбока-глыбока,*
*Вецер лісце шугае*
*далёка-далёка.*
*Снег зямлю наталяе*
*сабой напрадвесні,*
*сэрца песню шукае,*
*сапраўдную ПЕСНЮ!*

г. Клецк

### Святлана СТРОМСКАЯ

## Вёска

*Мне не стае паветра на Зямлі*
*І незлічоных траў тваіх суквецццяў,*
*Як ад цябе ад'едуся калі —*
*Мой родны кут, што вёскаю завецца.*

*Мне не стае тваіх празрыстых рос*
*І кветак, што вясною зацвітаюць.*
*Сцюдзёны вецер, ледзяны мароз*
*Пранізваюць мяне, як ад'язджаю...*

Клецкі р-н

### Іван ЛАЙКОЎ

## Санет

*Пасланнік сонца промень ясны*
*Прабіўся скрозь аблокаў дым,*
*Зрабіўся раптам залатым,*
*І тут жа знік у аднначассе,*
*Бо хмараў цёмныя драконы,*
*Што верна служаць навальніцы,*
*Яго схавалі ў камяніцу,*
*Дзе страх — наглядчык,*
*змрок — заслона,*
*Пацук вусаты — кат з сякерай,*
*Няма ў знямелых сценах веры...*

*Але не ўсё спрадвеку ў свеце:*
*Надыдзе светлы час надзеі,*
*Разгоніць хеўру свежы вецер,*
*І мусяць згінуць ліхадзеі!*

Барысаўскі р-н

### Сяргей РАБЧУН

•

*Забыцца млечнасцю нязвычнай,*
*Адплыць касмічным караблём*
*Пад грукат хмары навальнічнай*
*Ад той зямлі, дзе мы жывём.*

*Туды, дзе зорная імклівасць*
*І неабсяжнасць мар маіх,*
*І адзіноты уласцівасць*
*Адна, як вечнасць, на дваіх.*

*Прайсці завулкамі бяздоння*
*Скрозь метэорныя дажджы,*
*Каб разам мы былі, як сёння,*
*Спакон вякоў і назаўжды.*

*Я ўжо губляў тваю тыпічнасць,*
*Як і цябе, ў натоўпе слоў,*
*Каб адшукаць за сотню тысяч*
*Бясконцых светавых гадоў.*

*Я ўжо аджыў зямной самотай...*
*О, прыцягненне, працягні*
*Імгненне зорнага палёту,*
*Як кроплю зорнай чысціні.*

г. п. Плешчаніцы

### Віталь ЧАРАПОВІЧ

•

*Дождж ідзе. А куды — невядома.*
*У зямлю. У душу. У гады.*
*Ці шукае дарогу дадому,*
*Ці пазбавіцца хоча нуды.*

*Прадзіравіў вадою нябёсы,*
*Каб сыходзіла шэрая муць,*
*І рыпяць па дарозе калёсы,*
*Нібы нельга назад павярнуць.*

*З пасмаў светлых струменьчык сцякае —*
*Фарбы першыя вёсен і зім.*
*Гэта час у жыццё выпраўляе,*
*Гэта час выпраўляе за ім.*

*Вось прачнуўся нарэшце на возе,*
*А вакол — толькі ніці дажджоў,*
*У засмяглай халоднай трывозе*
*Ты чамусьці папіць не знайшоў...*

г. Маладзечна

### Яўген ПРАДЗЯДОВІЧ

## Весяліся

*Весяліся — не грэшны з грашнейшых —*
*мой народ ад пакуты сваёй,*
*весяліся ад ран несуцешных*
*і ад здзекаў над роднай зямлёй.*

*Весяліся, бо ўжо засыхаюць*
*па лясах веліканы-дубы,*

*бо буслоў на Палессі страляюць,*
*выязджаюць з сядзіб — у нябыт!*

*Весяліся, бо дзеці ўміраюць,*
*генацыд ціхі свой блаславі, —*
*ад Расіі да польскага краю*
*ланцугі ты свае не ірві!*

*Весяліся, калі запытаюць*
*пра крыжы, што растуць, як грыбы...*
*Весяліся, твой голас пазнаюць*
*з-за спрадвечнае песні-журбы.*

Барысаўскі р-н

Таіса ТРАФІМАВА

●

*Ці жыве на Беларусі Бог?*
*Толькі б ён зямлю маю зберог.*
*Можа, толькі у святым маленні*
*Знойдзем ад усіх пакут збавенне?*
*Можа, ад высокага лiтання*
*Кут мой родны Белай Руссю стане?..*

*Як выратаваць родную зямліцу —*
*Адвеку залатыя карані?*
*Без іх ці будзе крона зеляніцца?*
*І прыкра мне: я дома — чужаніца.*
*Чаму ж мы не збіраем камяні!?*

г. Маладзечна

Іна УЛАСЕНКА

## Я ластаўкай была...

*Я ластаўкай была, што паляцела*
*ў свет.*
*Так лёгка ўзнялася над зямлёю.*
*Хацелася пабачыць мне сусвет,*
*А ў матчыных вачах*
*не заўважала болю.*
*Жыла ўдалечыні ад рэчак і лясоў,*
*Ад месцаў дарагіх. Іраптам зразумела,*
*Што лепей за куток —*
*зямлю маіх бацькоў —*
*Я у жыцці нічога і не мела...*

Нясвіжскі р-н

Віктар ШАЦІЛА

●

*Духмяны пах спялеючага жыта,*
*Мядовы водар пажаўцелых траў —*
*Вось тое, што у сэрцы маім зліта,*
*Вось край, дзе марна шчасця я шукаў.*

*І з сэрцам збітым, і з душой распятай*
*Хадзіў прыгонным па сваёй зямлі...*
*І толькі ў думках не ўмірала свята —*
*Што ўсё ж жыву, дзе прадзеды жылі!*

г. Дзяржынск

Аляксандр НІНЬКА

●

*Ізноў устаў над светам вечар...*
*Заплюшчваю паволі вочы.*
*Ізноў я думаю аб нечым.*
*Ці гэта толькі подых ночы?*
*Ці гэта памяць той сустрэчы?*
*Ці гэта ты завеш мяне?*
*Ці гэта толькі вечар, вецер,*
*А цудаў нат няма і ў сне?*

*Абрыдла гэта немата.*
*Расплюшчыў вочы. Пустата...*

●

*Выходзіць Ноч на паляванне.*
*Грукоча сэрца — хваляванне,*
*Свідруе мозг напамінанне,*
*Бо я ўжо змучаны дазвання,*
*Адзіны выхад мне — каханне...*

Барысаўскі р-н

Зоя ПАДЛІПСКАЯ

## Табе і мне

*Табе і мне нялёгка на зямлі.*
*Здаецца, што працей —*
*прыняць рашэнне,*
*Каб крочыць поруч па жыцці маглі*
*Ды успрымаць каханне як збавенне*
*Ад адзіноты ржавых ланцугоў,*
*Ад волі непатрэбнай і дажджлівай,*
*Ад праведнасці незямных багоў*
*І ад упартай прагі*
*стаць шчаслівай.*
*Ад слодычы разважлівай хлусні,*
*Ад рэк бязводных, палыну падману,*
*Ад сноў відушчых.*
*Колькі іх ні сні —*
*Не загаіць ім боль адкрытай раны.*
*...Плывуць гады,*
*і разумеем мы:*
*Віно кахання будзе хмеліць веі*
*Табе — у шчодрай замеці зімы*
*І мне — у срэбным вэлюме завеі.*

г. Слуцк

Наталля ПРАКАПЕНКА

●

*Разбудзіў ціха ранак світанне*
*І стварыў гэтым самым пустэчу,*
*У якой няма веры ў спатканне,*
*У якой няма веры ў сустрэчу...*
*Усё згарэла учора знянацку,*
*Засталося адно папялішча.*
*Над пачуццем — зламаную цацкай —*
*Вецер болю і горычы свішча.*
*Шэры попел ўчарашніх памылак*
*Адлятае ў журботнае неба.*
*Памаліцца няма нават сілы*
*За душу сваю...*
*Мо так і трэба?..*

г. Вілейка

Алена БАБУРЭВІЧ

●

*Сціскаю зубы і цалую снег,*
*На ім сляды — дарожанька крывая...*
*Ірвецца крык ажно да белых стрэх.*
*На жаль, зіма мне болей не спрыяе.*

*З дзяцінства я баялася яе,*
*Той чысціні амаль што несапраўднай.*
*І сэрца прадчувала — забярэ*
*Яна каханне непрыкметна, плаўна.*

*Парушыліся белыя масты,*
*Аслепла я ад іх іскрыстых пырскаў.*
*А азірнулася — а ўжо бяды*
*Дыханне невыносна блізка.*

*Сціскаю зубы і цалую снег*
*Крывёю губ, пакусаных з адчаем.*
*На кожным кроку — за спіною смех,*
*Бяздонная бяссонніца начамі...*

г. Салігорск

Вера БУЛАНДА

## Дзевяты вал

*Па аголеным сэрцы яшчэ вас не білі?*
*І напятыя нервы, бы струны, не рвалі?*
*У здранцвенні нямым*
*слёзы ў горле не стылі?*
*Невядома дзевятага вала вам хваля?*

*Гэта ўсё: і адчай, і канец, і надзея,*
*Успамін, і праклящце, і вера у Бога.*
*І сціскаецца сэрца, душа халадзее:*
*Як жа мала жывём мы,*
*а гора так многа.*

Барысаўскі р-н

Любоў САЛАЎЁВА

## Восень прыйшла

*Злосны вецер выстуджвае вуліц*
*бязважкую цемень,*
*Абівае лісты і суквеццямі*
*зоркі зрывае, —*
*Гэта восень прыйшла наталіцца*
*каханнем нясмелым*
*І сваё блаславенне нам шле*
*ўладарка зямная.*

*Затанцуюць па стрэхах дажджы, —*
*баль вадзіцы сцюдзёнай.*
*І багацце кляновых чупрынаў*
*аслепіць пажарам.*
*Гэтак свечкі запаліць і стане*
*наш горад іконай,*
*І адорыць каханнем, як вечнаю*
*божаю карай.*

г. Слуцк

Святлана АДАМОВІЧ

## Сябру ў зімовы дзень

*Нядаўна цуд адбыўся — выпаў снег.*
*Хаця у гэты час і ён — не дзіва.*
*Спыні, мой сябра, на хвіліну бег*
*І ўслухайся ў завеі спеў цярпліва.*

*І ты адчуеш, што прыйшла ЯНА —*
*Халодная, разважлівая пані,*
*Прыгожая, чароўная зіма*
*З нязменнымі снягамі-дыванамі.*

*І робіцца так лёгка на душы,*
*І шчасце ў сэрцы полымем ірдзее...*
*Ты напішы, мой дружа, напішы*
*Зімовую мелодыю надзеі...*

г. Чэрвень

ЗГАДКІ

# Дзве сустрэчы

**1**

У кабінеце для пачаткоўцаў кансультантам паэт Мікола Хведаровіч. Я завітаў у кабінет не столькі для кансультацыі, колькі дзеля таго, каб з дапамогай кансультанта лягчэй было ўладзіць дзе-небудзь у друку свой новы верш. А верш той называўся "Хвала вясне, дажджу і грому". Натхніў мяне на яго раман Яноўскага "Всадники", які быў тады змешчаны ў "Роман-газете" ў перакладзе з украінскай мовы. Хведаровіч не запрашае мяне сесці, адразу ўзяўся чытаць сам сабе мой верш. Стаю і чакаю, што ён скажа. Па тым, як ён, прачытаўшы верш, зірнуў на мяне, я зразумеў, што кансультанту верш не спадабаўся. Пачынае чытаць другі раз, ужо ўголас. Бачу, вычуваю — верш мой да яго не даходзіць. Спыняецца на радках "Згінацца цяжка і гудзець ад ураджаю будзе лета" і гаворыць мне: "Гудзець", нядобра, трэба — "гусці". Я не пярэчу, стаю моўчкі, чакаю далейшага ходу. Але ў кабінет нечакана заходзіць Змітрок Бядуля. Хведаровіч, нядоўга думаючы, просіць Бядулю прачытаць мой верш. Я збянтэжыўся. Змітрок Бядуля для мяне — незапярэчаны аўтарытэт, класік, на творах якога я выхоўваўся, пачынаючы ад пачатковай школы. Хто не памятае ягоных школьных апавяданняў — "Пяць лыжак зацірки", "Дрывасекі"? А. Бядуляў "Салавей", а паэма "Як Бог стварыў Палессе", а аповесць "Набліжэнне", а раман "Язэп Крушынскі"? І такому знанаму пісьменніку, паплечніку Янкі Купалы і Якуба Коласа Хведаровіч тыцкае мой верш? Я сам не свой. Змітрок Бядуля прыглядаецца да верша, спрабуе чытаць яго то зверху, то знізу, ацэньвае, але ўстрымліваецца сказаць што-небудзь канкрэтнае. Некалькі разоў прачытаў, акцэнтуючы на кожным слове, загаловак верша. Браў як бы на смак кожнае яго слова — "Хвала вясне, дажджу і грому". Павярнуўся да Хведаровіча і сказаў: "А ведаеце, тут пахне нейкім паганствам". Быў я ашаломлены такім нечаканым прысудам. Кансультант, канешне, пасля такой ацэнкі аўтарытэтнага чалавека майго верша не ўхваліў. Ды я — нічога не было вышэй для мяне, як пабачыць свой верш у друку — занёс яго ў рэдакцыю часопіса "Полымя рэвалюцыі" і неўзабаве — парадаксальна — мой "паганскі" верш пабачыў там свет.

Згадалася гэта цяпер, і міжволі падумалася: няўжо Змітрок Бядуля, напужаны адэптамі марксісцкай артадаксальнай крытыкі, страхаваўся?

**2**

Шырока адзначаўся юбілей Янкі Купалы. Юбіляра запрасіў і Вышэйшы педагагічны інстытут (ВПІ), у якім я вучыўся. Я быў рады магчымасці выступіць на юбілеі са сваім вершам, прысвечаным Янку Купалу. Верш цалкам сацыялістычны. Маленькі верш. Я абыграў купалаўскі "Выпраўляла маці сына з калгаснае хаты", каб ён служыў у "арміі чырвонай".

Інстытут узмоцнена рыхтаваўся да сустрэчы з народным паэтам. Студэнты, асабліва літфакаўцы, з нецярпеннем чакалі дня сустрэчы. Я ўжо ўключаны ў спіс асоб, што будуць вітаць юбіляра. Хвалююся, усведамляю сваю адказнасць.

Надышоў чаканы дзень сустрэчы. Актавая зала паўнюткая студэнтамі, сцішылася ў чаканні слаўнага паэта.

І от з'яўляецца Янка Купала ў суправодзе досыць вялікай світы. З паэтаў бачу Петруся Броўку. Юбіляр і ўсе ўдзельнікі сустрэчы ўзыходзяць на сцэну, займаюць месца ў прэзідыуме. Звычайна на сцэну запрашаліся ўсе, хто мае сказаць слова пра юбіляра, гэта ўжо пэўныя людзі, яны ўжо пракантраляваныя. Так і гэтым разам. Камсорг папрасіў мяне прачытаць свой верш, з якім я буду выступаць. У прэзідыуме я заняў месца на самай апошняй лаўцы, тое, якое заставалася незанятым, побач... Петруся Броўкі. Мне было незразумела, чаму ён ажно сюды "зашыўся".

Пачаліся шматлікія вітанні. Імянітыя ўдзельнікі, прывітаўшы юбіляра з трыбуны, падыходзілі да яго, рукаліся, а то й абнімаліся.

Надышоў і мой чарод. Як не сваімі нагамі падыходжу да трыбуны, хвалююся. У запале прачытаў свой кароткі верш, які, як мне здавалася, не выклікаў патрэбнага эфекту. Ды студэнты ўзнагародзілі мяне дружнымі воплескамі — я ж іхні. У нерашучасці вагаюся, ці і мне падысці да юбіляра і прывітацца з ім. Юбіляр заўважыў маю нерашучасць і, як мне здалося, памкнуўся насустрач, узнімаючыся са свайго крэсла. Пасмялелы, падыходжу і рукаюся, але гэтак няўклюдна, што калі ўспамінаў сваю няўклюднасць, праклінаў сябе.

Сеў на сваё месца, побач з Петрусём Броўкам. Аціхшы, запытаўся ў яго, ці спадабаўся яму мой верш. У адказ пачуў ягонае кароткае: "У вас ёсць лепшыя". Быў я ў недаўменні, разгадваў — плюс гэта, ці мінус?

Сёння ж я дзіўлюся той выключнай дыпламатычнасці Петруся Броўкі.

**Масей СЯДНЁЎ**

*Глен Коў, ЗША 1997.*



СУСТРЭЧА ТРЭЦЯЯ... Янка БРЫЛЬ і Масей СЯДНЁЎ на балконе Дома літаратараў, 1994 г.

*Фота А. Клешчука.*

## Семісоты "Кот у ботах"



**У Тэатры юнага гледача адбыўся 700-ы паказ спектакля "Кот у ботах" С. Пракоф'евай і Г. Сапгіра паводле Ш. Пэро. Гэтая п'еса-казка была пастаўлена ў 1981 годзе рэжысёрам В. Тарнаўскайтэ, мастаком Л. Рулёвай, балетмайстрам М. Красоўскім з музыкай Э. Ханка і вершамі М. Чарняўскага. Самай першай ролю свавольнай Прынцэсы выконвала В. Філатава-Еранькова (цяпер яна займаецца рэжысурай), потым яе іграла Л. Разумава, а закаханым у Прынцэсу Жакам-Прасцяком быў В. Нікіценка; вынаходлівага гарэзлівага Ката ў розныя часы ігралі Л. Цімафеева, С. Журавель, А. Сідорчык, М. Пятроў...**

**Міналі гады. Змяняліся выканаўцы. Самым старэйшым і, як высветлілася, незаменным выканаўцам застаўся ў спектаклі М. Пятроў. Пасталеў ягоны Кот, як-ніяк мае 16 гадоў, але ўсё такі самы прывабны, рухавы, грацыёзны. А як ён выразна танцуе, якія мае адметныя каціныя звычкі, як загульвае з дзецьмі, — ну проста немагчыма не паддацца чарам яго абаяння! А ягоныя "думкі мае пушысценькія" становяцца ўлюбёным выразам дзяцей. Безумоўна, Кот — Пятроў з'яўляецца сапраўдным упрыгожаннем і рухавіком спектакля, — менавіта ён кіруе ўсім дзеяннем на сцэне. Нязменна выконваюць свае ролі ў спектаклі М. Лявончык і І. Шрубейка (Кароль), М. Лявонцьеў (Людаед). Цяпер Прынцэсу іграюць Р. Астрадзінава і А. Шабад, Жака-Прасцяка — С. Кулікоўскі.**

**Спектакль бачылі ў розных гарадах нашай рэспублікі, з захапленнем прымалі "Ката ў ботах" юныя гледачы Кіева і Львова, Данецка і Валгаграда.**

**У. УЛАДЗІМІРАЎ**

*На здымку: М. Пятроў (Кот) і М. Лявончык (Кароль).*

## Што рабіць з "вольным часам"?

**Можа, крыху састарэлым падаецца сёння тэзіс пра выхаванне гарманічнага чалавека, але рэчаіснасць дае нам жорсткія і балючыя факты, як разам з гармоніяй душы мы страчваем гармонію і ў эканоміцы, і ў палітыцы. Вось чаму кола тэм, якія абмяркоўваліся на Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі "Культурная сфера вольнага часу: стан, праблемы, пошукі", праведзенай Беларускім інстытутам праблем культуры, так ці інакш закранала пытанні стварэння магчыма спрыяльных ўмоў для духоўнага ўзбагачэння чалавека.**

**Што ўяўляе сабой сёння культура вольнага часу? Якія кірункі работы тут варта больш шырока выкарыстоўваць спецыялістам? Што рабіць установам культуры ў сітуацыі сацыяльна-эканамічнай нестабільнасці? Каму патрэбны сёння так званы клубны работнік?**

**Адказы на гэтыя ды іншыя пытанні наконт арганізацыі культурнай сферы вольнага часу склалі змест зборніка тэзаў па выніках праведзенай канферэнцыі, выпушчанага БелІПК.**

**Тэзы змяшчаюць разважанні спецыялістаў, прадстаўнікоў шматлікіх культурных устаноў і арганізацый рэспублікі і замежжа наконт шляхоў і перспектыў развіцця клубных устаноў на Беларусі; разглядаюцца асновы рэгіянальнай культурнай палітыкі ў сучасных умовах, а таксама сацыяльна-педагагічныя аспекты арганізацыі вольнага часу розных груп насельніцтва.**

**Выданне адрасавана кіраўнікам устаноў і прадпрыемстваў культуры, выкладчыкам культуразнаўчых дысцыплін, усім, хто працуе ў сферы культурнага забеспячэння вольнага часу насельніцтва. Набыць зборнік можна ў БелІПК.**

**І. ПЫЖ**

ТЭАТР

# "Мы надта доўга пачуваліся правінцыяй..."

***Прыкладам таго, як сам тэатр узаемадзейнічае з рознымі відамі мастацтва, як аб'ядноўвае ды спалучае іх, тэатральныя крытыкі выснавалі ідэю аб'яднання крытыкаў літаратуры і мастацтва. Паказальна і тое, што менавіта тэатральны крытык абраны старшынёю новаўтворанага саюза: доктар мастацтвазнаўства Рычард СМОЛЬСКІ.***

**— Рычард Баляслававіч, калі ласка, не прамініце так званую гісторыю пытання...**

— Узаемадачыненні творцы й крытыка заўжды складаныя: у іх закладзена апаніраванне адно аднаму. Ад прыроды крытычнай дзейнасці нікуды не падзенешся. А дзейнасць *універсальная складаная, непаўторная і* — навукова-творчая. Такая дваістая прырода... Прытым, што ў нас не бракуе выбітных творцаў, таленавітых ды самабытных крытыкаў няшмат. Надта ўжо датклівы род дзейнасці. Датклівасць нашай прафесіі я адчуў яшчэ студэнтам, калі вучыўся на тэатразнаўцу. Складанасці ў жыцці пачыналіся пасля таго, як штосьці й кагосьці ацэньваў не так высока, як, здавалася б, можна было. Творцы выказвалі незадаволенасць толькі што не на вуліцы пры сустрэчы. Больш як дваццаць гадоў таму я зрабіўся сябрам БТА, тады ж, у 1978, быў абраны ў прэзідыум праўлення. Седзячы поплеч з творцамі — дзе б там ні было — пачуваўся часам... ніякавата. Творцы адзін аднаго любяць, а любоў... злая. Або скажам так: часам добрыя дачыненні з сябрамі замінаюць быць справядлівым з не сябрамі... Натуральна, гэткае не вылучала толькі Саюз тэатральных дзеячаў, — ці не кожны калега з кожнага іншага саюза казаў пра сваё самапачуванне: маўляў, няёмка...

**— З некаторага часу творчая незалежнасць — улюбёная тэма нашых прафесійных размоў...**

— Ідэя арганізаваць незалежны саюз узнікла ў мяне гады чатыры таму. Падстава — дзейнасць нашага тэатральнага саюза. *Пасля абрання на пасаду старшыні саюза* Аляксея Дударава СТД прычакаў вялікіх пераменаў. Адна з іх — фактычнае спыненне прафесійнай дзейнасці крытыкаў. За пяць апошніх гадоў, дарэчы, *я не прыгадваю*, каб хоць раз на прэзідыуме СТД размаўлялі пра стан крытыкі, пра дапамогу, пра садзейнічанне ёй. Секцыя крытыкі проста сканала. Аб'яднанне тэатральных крытыкаў "Авансцэна" з'явілася якраз для прафесійнай падтрымкі зацікаўленых...

**— Дарэчы, неаднойчы гучала і тое, што прафесіі крытыка ў Беларусі проста не існуе.**

— Людзей, якія зарабляюць крытычнаю дзейнасцю сабе на жыццё, я ведаю хіба ў Маскве ды Санкт-Пецярбурзе. У нас крытыка — напалову прафесійнае хобі. "Авансцэна" мусіла дапамагаць людзям ў прафесій-ным *выяўленні ды гарце*. Нашы чатыры міжнародныя канферэнцыі, як той казаў, арэчавіліся, увасобіліся ў зборнікі матэрыялаў (для гісторыкаў ды культуролагаў матэрыял неацэнны). Туды ўвайшлі не толькі развагі аналітыкаў, але і думкі практыкаў сцэны. Мы праводзілі сацыялагічныя доследы, выдалі манаграфію... Дарэчы, у сукупнасці нашы выданні склалі своеасаблівую тэатральную бібліятэку першай паловы дзевяностых... Як і ўсялякі жывы арганізм мы развіваліся, рамкі аб'яднання тэатральных крытыкаў перараслі. *Разам з калегамі выкшталцілі ідэю самастойнага саюза*, які б з'яднаў аналітыкаў мастацкай зарыентаванасці і літаратуры.

**— Ідэя мала чаго каштуе, калі яе не ўвасобіць...**

— А ўвасабленне залежыць ад умоў ды магчымасцяў. У нашых умовах усё спраўдзілася. Асаблівая падзяка — кіраўнікам Міністэрства культуры Беларусі. І былым (сп. Вайтовічу, сп. Бутэвічу), і цяперашняму, сп. Сасноўскаму. За разуменне, за паразуменне, за тое, што цэняць у людзях прафесійнасць, ды, як асобы цывілізаваныя, заахвочваюць аналіз — з усімі ягонымі вартасцямі. Спадзяюся, што ідэю пастаяннага аналізу ўсяго літаратурна-мастацкага працэсу ў Беларусі ў Міністэрстве культуры (таксама) зразумеюць ды падтрымаюць.

**— На якія сродкі ды на чый досвед мусіць абаперціся наваствораны саюз?**

— Практычны ды тэарэтычны досвед "Авансцэны" цяпер пераацаніць цяжка. Мы навучыліся зарабляць грошы (праўда, не вялікія), узаемадзейнічаць не адно з дзяржаўнымі ўстановамі, але і з прыватнікамі. А без трывалай фінансавай базы новы саюз не

# "Цыганскі барон", які ледзь не скалануў Мінск

ПОГЛЯД КРЫТЫКА НА ПРЭМ'ЕРУ

Каб пабачыць здачу спектакля "Цыганскі барон", тэатр музычнай камедыі мне давялося ледзь не штурмаваць. Дырыжор А. Сасноўскі, *які знаходзіўся за запаветнымі дзвярыма* глядацкага фае, з крыкамі: "Гэта прэса! Гэта прэса!! Дайце прайсці прэсе!!!" літаральна працягнуў мяне за руку праз натоўп жадаючых бясплатна трапіць на прэм'еру.

У зале рабілася нешта неверагоднае: усе да аднаго месцы былі занятыя, і народ, як мог, уладкоўваўся хто на прыстаўных крэслах, хто на прыступках, а хто і на бакавых парапетах цэнтральнай ложы. Знаны фатограф В. Стралкоўскі, які шмат чаго пабачыў, дык і ўвогуле, махнуўшы рукой на ўмоўнасці, уладкаваўся на падлозе, што не зашкодзіла яму ўпаляваць выдатныя кадры. Кіраўніцтва спехам адчыніла ўрадавую ложу, куды рынуліся яшчэ некалькі дзесяткаў прагнучых да відовішча. "Вяльможная" ложа мужна супраціўлялася бурнаму нашэсцю "чэлядзі", бо крэслаў там аказалася разы ў тры менш, чым тых, хто туды набіўся.

Ды ўсё ж у час спектакля не абваліліся ні ложа, ні столі, ні лесвіцы, ні шыкоўныя



люстры — краса і гонар тэатра музкамедыі ні нават (і дзякуй Богу!) актрыса І. Скарабагатава (Служанка), якая воляю рэжысёра Б. *Лагоды мусіла ў фінале гойдацца над сцэнай*, завіснуўшы на тоненькай вяровачцы.

Здача адбылася без асаблівых прыгод.

Прэм'ера на другі дзень і ўвогуле прайшла добра.

Шчырыя авацыі гледачоў былі для стваральнікаў спектакля самай высокай узнагародай. Але адгучалі апладысменты, патухла святло, апусцела глядзельная зала... І, пакуль цыганы дружным натоўпам едуць у замак графа Аманая святкаваць вяселле Барынкая ды Сафі, на "вялікую дарогу", вострачы пёры, выходзіць "табар" крытыкаў. Напэўна, яны не будуць такімі ж рахманымі, як аперэтачныя цыганы. Бо ў спектаклі намяшана і добрага, і пошлага, і смешнага, і проста недарэчнага. Як кажуць у такіх выпадках, "з рога ўсяго многа". А значыць, дбайным крытыкам ёсць пра што пісаць.

*З прывабных рысаў пастаноўкі я адзначыла б перш за ўсё яе лагічнасць*, абгрунтаванасць, паслядоўнасць. Тут пастаянна адчуваецца цвёрдая рэжысёрская рука, якая трымае сваёй уладай усё, *што* адбываецца на сцэне. Але тэмпарытм пастаноўкі даволі марудны: павольна разгойдваючыся, як дрэнна змазаныя калёсы, яна набірае хуткасць толькі пад самы канец. А спектакль жа цягнецца тры з лішнім гадзіны!

Прыемна бачыць хор не масай статыстаў, а жывым арганізмам спектакля, нават яго дзейнай асобай. Прыемна чуць яго зладжанае гучанне, пераконваючыся ў тым, што хормайстар Т. Гуліна, ведае сваю справу на "выдатна". Вельмі высокай адзнакі заслугоўвае і праца балетмайстра Н. Дзячэнкі — ну і, безумоўна ж, ейных падшэфных (устаўны балетны нумар на музыку "Цыганскіх напеваў" П. Сарасатэ з салістамі Ю. Дзятко і К. Кузняцовым шторазвыклікае цалкам заслужаную буру авацый). Харэаграфія Н. Дзячэнкі робіць спектакль надзвычай *пластычным*, я б сказала, нават нейкім паветраным. А некаторыя сцэны з так званымі "падтанцоўкамі" (напрыклад, полька "Трык-трак", яна ж — дуэт Мірабэлы і Стэфана, ці знакаміты нумар Зупана "Я собой хорош", ці куплеты Суддзі) можна без перабольшвання назваць бліскучымі і зноў захапіцца ў іх майстэрствам акцёраў З. Вяржбіцкай, Г. Казлова, А. Ранцанца, В. Сердзюкова. Гледзячы на вядучых нашых артыстаў у такія хвіліны, разумееш, што вось *гэтыя* лёгкасць, натуральнасць, весялосць "цераз край", — і ёсць тое галоўнае, з-за чаго людзі розных пакаленяў і густаў аддаюць перавагу аперэце перад усімі іншымі тэатральнымі жанрамі.

Але ёсць у спектаклі, на жаль, сцэны, якія, наадварот, адлюстроўваюць найгоршыя бакі жанру аперэты, а менавіта — танны гумар, дрэнны густ, жаданне выціскаць з публікі смех любым спосабам. Тая ж З. Вяржбіцкая (Мірабэла) "дзякуючы" рэжысёру мусіць паказваць "зайчыка": скакаць па сцэне, наставіўшы на макаўку два пальцы, чытай — рогі. Некалькі разоў глядзела спектакль, але ніводнага разу не было таго, каб публіка станоўча зрэагавала на гэткую "мізансцэну". Наадварот, нечаканыя "скокі" актрысы ў зусім ціхамірнай сцэне выклікаюць хутчэй збянтэжанасць і раздражнёнасць, чым смех. Тое ж сказала б наконт агульнай трактоўкі сваёй ролі А. Ранцанцам (Зупан). Часам падаецца, што са спектакля ў спектакль акцёр тыражуе адны і тыя ж прыёмы, *галоўны з якіх — націск. Я б нават напісала* гэтае слова з вялікай літары. Націск, праца на пастаянным "forte" — у літаральным і вобразным сэнсе, — бывае, перашкаджаюць бачыць у акцёры менавіта тыя якасці, што падкрэсліваюць яго безумоўны талент: гнуткасць, багатую інтанацыйную палітру, глыбокае адчуванне спецыфікі жанру музычнай камедыі ў самых розных яго праявах. Я памятаю лепшыя, сапраўды зорныя ролі А. Ранцанца, і калі пачынаю параўноўваць, разумею, што ў спектаклі "Цыганскі барон", як і ў спектаклі "Халопка", як і ў спектаклі "Вясёлая ўдава" акцёр карыстаецца, па сутнасці, адной фарбай...

Ацэнка працы акцёраў для крытыка — справа вельмі адказная, бо найдрабнюткая адмоўная заўвага ўспрымаецца імі як вялікая абраза. Але ж я зусім не хачу абразіць маіх любімых акцёраў, за якіх заўсёды шчыра хваралю — і на прэм'ерных паказах, і на шараговых, будзённых спектаклях! Ды ўсё ж лічу сваім абавязкам (такая ў крытыка *прафесія*) звярнуць увагу на ідавочныя, з майго пункту гледжання, пралікі.

Вельмі шкада, што паміж галоўнымі героямі спектакля Сафі і Барынкаем у выкананні Л.

распачнеш. Яшчэ адно апірышча — Беларускі інстытут праблем культуры і ягоная лабараторыя прафесійнага мастацтва. Ідэя ўтварэння такой лабараторыі таксама своечасовая, бо паводле нейкае традыцыі інстытут да нядаўняга часу займаўся толькі народнай творчасцю. Але годнасць нацыі складае і прафесійнае мастацтва — з народным нароўні: менавіта ад стану ды ўзроўню прафесійнага мастацтва залежыць міжнародны прэстыж дзяржавы. Балеты Елізар'ева або карціны Селешчука распавялі пра Беларусь куды больш за ўсе геаграфічныя даведнікі ды грамадскія акцыі. Задачы новага саюза — аб'ектыўнае і добразычлівае асэнсаванне сучаснага мастацкага працэсу, фармаванне грамадскай думкі вакол з'яў мастацкіх або літаратурных, падтрымка талентаў, перадусім — маладых (скажам сумленна — часам мастацкія генералы надта абцяжарваюць жыццё маладым творцам). Мэты і задачы, як сфармулявана ў статуце, — аб'яднанне і каардынацыя намаганняў сяброў саюза... Мы ніколькі не прыніжаем іншыя творчыя саюзы і ні ў чым не замахваемся на іхнія магчымасці, правы і да т.п. Але мусім і будзем падтрымліваць тых, хто займаецца нашай прафілёвай дзейнасцю (аналітыка, крытыка і да т.п.). Карыстаючыся правам творчага саюза, зможам іх вылучаць і на прэміі, і на ганаровыя званні, — не памятаю, каб нейкі творчы саюз хоць калі заахвочваў ды падтрымліваў такім чынам крытыка. А калі такія прэцэдэнты і ўзнікалі, дык як крытыку было пазбегнуць "кішэннай" далучанасці да творцы, які так яму спрыяў? Карацей, шмат маральных праблем, якія спараджае побыт, абцяжарваюць часам прафесійнае сумленне крытыка. Хоць гэтага ён мусіць пазбыцца... Мы, дарэчы, разлічваем на свае прафесійныя прэміі ды прызы, каб падымаць і прэстыж, і аўтарытэт нашага цяжкога ды няўдзячнага занятку. (У перспектыве — стварэнне ўласнага друкаванага органа.) Наш святы абавязак — навукова-творчыя канферэнцыі. Першая з іх ды ў найбліжэйшы час — пра стан ды праблемы сучаснай беларускай літаратурнай і мастацкай крытыкі. Пра гэта кажуць вельмі мала і надта негрунтоўна. Як і пра падрыхтоўку мастацтвазнаўцаў, напрыклад. Сама сістэма іх падрыхтоўкі вымагае ўдасканальвання, асабліва ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Выкладчыцкія сілы, якія там задзейнічаныя, дужа абмежаваныя і не заўжды самай высокай кваліфікацыі. У Беларускім універсітэце культуры педагагічны склад, дарэчы, непараўнальна больш адукаваны і трывалы. Саюз возьме на сябе і правядзенне навукова-даследчых і іншых аналітычных работ у сферы сучаснай культуры і мастацкай творчасці, і прапаганду лепшых твораў за межамі Беларусі. Між тым практыка ў самой Беларусі пакуль што заганная: творца, справядліва ганараваны, можа ўжо ніколі не падымацца... да самога сябе, а то і ганьбіць сваё колішняе сваім цяперашнім. І крый Божа яго аспрэчыць — ён ганараваны!

**— А хіба сярод крытыкаў усё так справядліва і аб'ектыўна?**

— Усе так званыя міжусобныя змаганні крытыкаў (у любых сферах) сведчаць толькі пра тое, што сапраўдных крытычных школ на Беларусі не склалася, не сфармавалася. Прычынаў больш як трэба. Узнікалі асобныя імёны, скажам, Бярозкіна або Адамовіча, але кірункаў, школ, на жаль, так і не прычакалі. Гэта — своеасаблівасць беларускага развіцця, няйначай. Цяпер, у дзевяностыя гады, калі мы, нарэшце, узбіліся на шлях дзяржаўнай незалежнасці з самымі рознымі зменамі ды зрухамі, я спадзяюся: што яны закрануць і сферу мастацкага жыцця, і сферу яго мастацтвазнаўчага аналізу. Я не магу і не хачу крыўдзіць старэйшых, сваіх папярэднікаў, але мы надта доўга пачуваліся і насампраўдзе былі правінцыяй, — хоць бы ў дачыненні да Масквы, дзе фармавалася навуковая і мастацкая эліта. Цяпер ёсць надзея на падтрымку і гадаванне яе ў нас.

**З Рычардам СМОЛЬСКІМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**



Станевіч і А. Ісаева так і не ўзнікае жаданага пачуцця, ці, як сказала адна мая вельмі разумная калега, "харызмы", на якой мог бы грунтавацца спектакль. "Харызмы" і праўда няма. Не трэба быць музыкантам, каб ацаніць выдатны, сапраўдны оперны голас А. Ісаева. Але менавіта як музыкант заўважу: нягледзячы на тое, што артыст стаў, нарэшце, браць такія паказальныя для барытона і не любімыя ўласна ім высокія "соль" (колькі разоў чула, як ён наўмысна змяняў мелодыю, каб не спяваць верхнія ноты!), А. Ісаеў мала клапоціцца пра нюансы, спяваючы гучна, моцна, на поўны голас. Таму ягоным героям — у тым ліку і Барынкаю — не хапае цеплыні, лірычнасці. Цікава, якім бы мог быць Барынкай у П. Рыдзігера — цяпер ужо, можна сказаць, ветэрана тэатра, яго вядучага саліста? Па нейкіх прычынах ён не спявае гэтую партыю, але з'яўляецца ў апошняй карціне 2-й дзеі спектакля ў ролі графа Аманая, маладжавага дзядзькі Сандара Барынкая. І з'яўленне ягонае прыводзіць у трапятанне ўсю жаночую палову глядзельнай залы, у тым ліку і мяне асабіста. Эпізадычная роля зроблена артыстам бліскуча і нічога, апроч захаплення, не выклікае. А можа, і сапраўды — "лепей мен-ей, ды лепей"?..

З несумненных акцёрскіх удач назаву ролі І. Цярэнцьевай (Арсена) і В. Сердзюкова (Суддзя). Прыемным адкрыццём для публікі стала Л. Кузьміцкая (Чыпра) — маладая спявачка з добрымі дадзенымі актрысы музычнага тэатра.

Пры пастаноўцы аперэты другі пасля рэжысёра стваральнік спектакля — дырыжор. Трэба аддаць належнае А. Сасноўскаму: ён чуйна вядзе спектакль за сабой, а аркестр пад ягоным кіраўніцтвам дэманструе добра падрыхтаваную працу. Але ў ігры музыкантаў усё ж адчуваецца пэўная неахайнасць, часам нават надакучлівая. Напрыклад, ужо на некалькіх спектаклях я заўважыла, што яўна "не строит" камертон аркестра — габой. А ў яго ж ва ўверцюры такія выразныя сола!..

Зноў жа, як музыканту мне дзіўна чуць гучанне фанаграмы "Цыганскіх напеваў" П. Сарасатэ ў згаданай танцавальнай сцэне. Спасылкі на тое, што ў Мінску, маўляў, няма скрыпача, які мог бы сядзець у аркестры і граць сола ў гэтым творы, — непераканаўчыя. Пры "жывым" аркестры скарыстоўваць фанаграмы сімфанічнай музыкі ўвогуле недапушчальна. Тым больш — пры цяперашніх абміцыях тэатра, які імкнецца да перайменавання ў "Мінскі музычны".

Вельмі няўдалымі падаліся мне ў "Цыганскім бароне" дэкарацыі (мастак Я. Ждан). Гэткія "тканіны з прэтэнзіяй" толькі прыбядняюць спектакль.

Прэм'ера класічнай аперэты І. Штрауса адбылася не ў лепшыя для тэатра часы. Зноў яго ліхаманяць праверкі, рэвізіі. А новы галоўны рэжысёр, здаецца, зусім не адпавядае свайму "лагоднаму" прозвішчу. Прынамсі, на прэс-канферэнцыі, што адбылася пасля здачы спектакля, адчувалася, што Б. Лагода настроены вельмі рашуча і што прыказка "молада-зелена" — зусім не пра яго. Можа, гэта і добра, але не грэх напомніць новаму кіраўніку тэатра, што ў жыцці мастацкім лепш благі мір, чым добрая сварка.

Ну, а калі ўжо ў канцы гэтых сціплых нататкаў замільгацелі прыказкі, дык дадам яшчэ адну. Таксама як пажаданне Б. Лагоду: "Спяшайся павольна"...

**Вольга БРЫЛОН**

МУЗЫКА

# Каб ганарыцца не толькі мінулым

## V МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС ІМЯ М. К. АГІНСКАГА Ў СМАРГОНІ

У Смаргоні адбыўся чарговы — пяты ўжо — Міжнародны конкурс імя Міхала Клеафаса Агінскага, аўтара вядомага паланеза "Развітанне з радзімай". Дваццаць гадоў яркага жыцця гэтага выдатнага чалавека, музыканта і дзяржаўнага дзеяча звязаны з Залессем, маёнткам Агінскіх на Смаргоншчыне.

Пачаўшы сваё жыццё ў 1991 годзе, конкурс набыў шырокую вядомасць і папулярнасць, кожны раз узбагачаючыся новымі ідэямі, якія надаюць яму унікальнасць і непаўторнасць. Так, сёлета дэманстравалі сваё майстэрства камерныя ансамблі юных выканаўцаў. 67 ансамбляў аб'ядналі 168 удзельнікаў ад 8 да 18 гадоў, навучэнцаў дзіцячых музычных школ і вучылішчаў з усіх абласцей Беларусі.

Арганізатары маштабнага свята мастацтва — Міністэрства культуры Беларусі, упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама, Смаргонскі райвыканкам і Беларускі інстытут праблем культуры — падрыхтавалі і правялі яго на высокім арганізацыйным узроўні. Паводле слоў міністра культуры Аляксандра Сасноўскага, "старажытны і славуты горад Смаргонь голасна заявіў аб сабе як цэнтр адной з яскравых з'яў музычнага жыцця Беларусі. Вельмі важна, што ў культурным плане паняцце "правінцыя" набывае тут самы станоўчы сэнс. Стварэнне новых, перыферыйных цэнтраў мастацкага жыцця мае вялікае значэнне для культурнага развіцця нацыі ў цэлым".

Знамянальна, што такое мерапрыемства, як конкурс класічнай музыкі, ажыццяўлялася ў цесным кантакце з мясцовымі органамі ўлады, пад асабістым кантролем старшыні Смаргонскага райвыканкама Мікалая Кавалёва, які вітаў гасцей наступнымі словамі: "Наш горад мае даўнія культурныя традыцыі. Але мы, смаргонцы, хацелі б ганарыцца не толькі мінулым. Некалі, дзякуючы культурна-асветніцкай дзейнасці нашага земляка М. К. Агінскага, нашы мясціны называлі "паўночнымі Афінамі". Для нас, патрыётаў свайго горада, справа гонару, каб сёлетні фестываль стаў важкім аргументам для пацвярджэння гэтай алегорыі свабоды. І нам радасна бачыць, што конкурс жыве, расце, пашыраецца, набірае размах і сілу, набывае новых сяброў. Як гаспадары мы імкнуліся зрабіць усё магчымае, каб удзельнікі конкурсу адчувалі сябе як дома, каб нішто не перашкаджала ім выявіць свае таленты і майстэрства".

Словы першай асобы мясцовай улады не засталіся пустым абяцаннем. Спрактыкаваныя члены журы і загартаваныя звыклымі арганізацыйнымі цяжкасцямі педагогі ўдзельнікаў конкурсу былі прыемна ўражаныя прадуманасцю кожнай дэталі: ад сустрэчы на вакзале, цудоўнага свята адкрыцця, багатай культурнай праграмы — да зладжанай дакладнай працы медслужбаў і аховы. Запрашэнне сталічнага падраздзялення АМАП у якасці гаранта парадку і спакою ў горадзе не здалося залішняй мерай перасцярогі, асабліва тым, хто памятае леташні конкурс "Музыка надзеі" ў Гомелі, дзе ўдзельнікі былі вымушаныя ноччу эвакуіравацца з гасцініцы з-за нібыта закладзенага выбуховага прыстасавання.

Асаблівы бляск і значэнне гэтай падзеі надала прысутнасць прамога нашчадка М. К. Агінскага — вядомага брытанскага піяніста Іва Залускага, які прыбыў у Смаргонь з жонкай Памелай (гісторыкам, музыказнаўцам і піяністкай) для ўдзелу ў цырымоніі адкрыцця і ў працы журы.

Што да прафесійнага ўзроўню конкурсу і яго значэння для развіцця музычнай адукацыі ў рэспубліцы ў цэлым, то для ўсіх нас, педагогаў і проста аматараў музыкі, важна тое, што на Беларусі з'явілася яшчэ адна сталая і даволі аўтарытэтная пляцоўка, дзе можа паказаць сябе маладое пакаленне музыкантаў. Перапоўненыя залы сведчылі пра велізарную цікавасць публікі, што яшчэ раз пацвердзіла значнасць так званай "палітыкі малых гарадоў" у сферы культуры.

Для спецыялістаў БелІПК, вядучай навуковай установы ў сферы культуры, конкурс — гэта яшчэ і прастора для прафесійнай экспертызы. Акрамя вызначэння агульнага ўзроўню музычнай адукацыі, выяўлення юных талентаў, конкурс дапамагае ўбачыць недахопы ў стратэгічных напрамках развіцця гэтай сферы. Конкурс пераканаўча прадэманстраваў, што такому важнаму віду музіцыравання, як камерны ансамбль, надаецца недастаткова ўвагі, асабліва ў музычных вучылішчах (што, відавочна, і тлумачыць іх недастатковы ўдзел у конкурсе). Асабіста маё меркаванне, якое склалася даўно і толькі ўмацавалася смаргонскімі ўражаннямі, зводзіцца да таго, што камерны ансамбль трэба выкладаць нароўні са спецыяльнасцю ў навучальных установах усіх узроўняў (дарэчы, на Захадзе прапорцыя менавіта такая). Мы ж рыхтуем амаль выключна салістаў, што не апраўдваецца ў большасці выпадкаў, бо на вялікую сцэну ўрэшце выходзяць адзінкі. Здольнасць жа іграць у ансамблі адкрывае мноства шляхоў у прафесіі музыканта для людзей з рознай ступенню адоранасці: перш за ўсё, гэта праца ў сімфанічных і камерных аркестрах.

Мы ўбачылі на конкурсе вялікае жаданне ўдзельнікаў авалодаць складаным мастацтвам ігры ў ансамблі. Але спецыфіка гэтага прадмета не такая простая: неабходна паслядоўна развіваць у юных музыкантах уменне музіцыраваць, слухаць і дасканала валодаць інтанацыяй. У цэлым іхняя падрыхтоўка вымагае ўдасканальвання.

Выявілася і яшчэ адна вельмі сур'ёзная праблема: недахоп рэпертуарнай літаратуры. БелІПК, сёння практычна адзіная ў краіне ўстанова, якая выдае метадычную літаратуру ў галіне мастацкай адукацыі, збіраецца на працягу бліжэйшых двух гадоў часткова запоўніць гэты вакуум, выпусціўшы каля дзесяці нотных зборнікаў для камерных ансамбляў. Мы зробім усё, што ў нашых сілах, для развіцця ў краіне гэтага цудоўнага віду музіцыравання. Пра яго перспектыўнасць сведчаць такія пераканаўчыя прыклады, як Камерны струнны аркестр пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна (Рэспубліканскі ліцэй пры Беларускай акадэміі музыкі), які выступаў у Смаргоні ў якасці госця, а таксама многія выступленні канкурсантаў.

У першай узроставай катэгорыі (да 12 гадоў) лаўрэатамі сталі ансамбль скрыпачоў Смаргонскай ДМШ (кіраўнікі С. Коваль, В. Шоць), а таксама дуэт Магілёўскай ДМШ N 2 (Т. Вайлапава, В. Бардзілоўская), два трыо з Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі (К. Пукст, А. Дулаў, І. Тушынскі і К. Бянцонава, А. Жарава, А. Рашэтнік). Адкрыццём конкурсу стаў таленавіты дуэт з Баранавіцкага музычнага вучылішча (Р. Шыманец, У. Авадок).

У другой узроставай катэгорыі (да 15 гадоў) І прэмію і прыз ад Смаргонскага аддзялення фонду міру атрымалі ўдзельнікі трыо Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі (В. Кеда, А. Ходак, К. Кірыльчык). ІІ прэмію павезлі дадому госці з Пінска (С. Рудкоўская, Т. Страпко) і Слуцка (А. Чарапко, С. Плахоцкая). ІІІ прэміяй узнагароджаны ансамблі Магілёўскага ліцэя музыкі і харэаграфіі (І. Філінаў, А. Палякова, Г. Драздова, Д. Мацвіенка ды Г. Пукінская, С. Шыпленка, І. Навалаева).

У трэцяй узроставай катэгорыі І прэмія не была прысуджана, а ІІ падзялілі дуэты з Мінскай ДМШ N 10 (А. Якаўчук, І. Афоніна) і Віцебскага музычнага вучылішча (Б. Велікоўскі, К. Марцірасян). ІІІ прэмію атрымаў ансамбль Гродзенскай ДМШ N 1 (Г. Кусцікава, А. Вароніна, М. Сяргей, Э. Рой).

Акрамя грашовых прэмій, многія ўдзельнікі атрымалі каштоўныя падарункі ад Смаргонскага райвыканкама і Упраўлення культуры Гродзенскага райвыканкама. Спецыяльным прызам Саюза музычных дзеячаў за лепшую выкладчыцкую работу была адзначана С. Дамарадава, выкладчык Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Паэт Уладзімір Някляеў, ураджэнец Смаргоншчыны, ганаровы грамадзянін Смаргоні і госць фестывалю, уручыў свой прыз і кнігі з аўтографам дуэту з Мінскай ДМШ N 1 Я. Дакшыцкаму, Д. Уласюку.

Сюрпрызам для ўсіх гасцей сталася выступленне дзіцячай музычнай студыі "Альтанка" (кіраўнік Сяргей Верамейчык, выкладчык Залескай СШ). Дзеці былі аўтарамі, выканаўцамі, імправізатарамі ўласнага музычнага дзейства. Іх творчая свабода і непасрэднасць, улюбёнасць у музыку пакарылі ўсіх і ўспрымаліся як нешта глыбока сімвалічнае. Пасля конкурснага напружання дзякуючы "Альтанцы" асабліва яскрава высветлілася першапачатковая, аб'яднальная для ягоных удзельнікаў сутнасць іх адносінаў да музыкі — як да вялікай радасці, як да формы высокага існавання.

Хочацца пажадаць конкурсу імя М. К. Агінскага і далей узнімацца на новыя якасныя прыступкі, што бліскуча ўдаецца ўжо ў пяты раз.

**Уладзімір СКАРАХОДАЎ, старшыня журы конкурсу імя М. К. Агінскага, рэктар Беларускага інстытута праблем культуры, прафесар**

УСПАМІНЫ

# Вяртанне доўгу

Аўтарам гэтых успамінаў пра Янку Купалу з'яўляецца гродзенец Мікалай Шыманка, адзін з былых пражскіх студэнтаў, жыццядзейнасць якіх так хораша выяўлена ў рамане Віктара Вальтара "Роджаныя пад Сатурнам" (друкаваўся ў "Голасе Радзімы").

Нарадзіўся Мікалай Піліпавіч 19 лютага (ст.ст.) 1901 года ў сяле Дабучын Пружанскага павета ў сям'і з дзевяці душ. Бацька быў чалавекам напорыстым: дзейным: двойчы пабываў у Канадзе на заробках. Яго якасці: не баяцца граніц і абмежаванняў, тарыць свой шлях, — перадаліся і сыну. Да бежанства ў Расію паспеў скончыць двухкласную народнапрыходскую школу, а па вяртанні ў 1919 годзе на радзіму дабіўся, пасля вучобы на польскіх настаўніцкіх курсах, пасады вучыцеля пачатковай школы. Ды ненадоўга: польскай адміністрацыяй быў звольнены за праведзеную беларусізацыю школкі ў Ліхачах.

Далейшыя праследаванні за нацыянальную ідэю апісаны ва ўспамінах.

Мікола Шыманка згадвае, што Янка Купала, пазнаёміўшыся з жыццём беларускай студэнцкай калоніі ў Чэхіі (каля сотні чалавек), усклікнуў: "У вас тут у Празе маленькая Беларусь!" Але і ў маленькую суполку ўеліся метастазы беларускага грэху. Вось што аб гэтым напісаў мне сам Мікола Піліпавіч... "Да 1925 года існавала агульная студэнцкая арганізацыя, якая выдавала на ратататары часопісы: "Беларускі студэнт", "Іскры Скарыны". У агульнай арганізацыі значную кіруючую ролю адыгрывалі такія студэнты, як Тамаш Грыб, Янка Станкевіч, Мікалай Верамей, Віпцук Грышкевіч, Ян Бабровіч, Лаўскі і інш. У 1925 годзе студэнцкая калонія раскалолася на дзве асноўныя групы: на паступовую пад назвай "Саюз студэнтаў-грамадзян БССР" і Беларускую нацыянальную. Мяне выбралі сакратаром "Саюза...", у якім налічвалася каля адной трэці ўсіх студэнтаў. Старшынёю стаў Міхаіл Каўцэвіч. Мы выдалі за кошт савецкага пасольства друкарскім спосабам некалькі нумароў часопіса "Прамень" і "Новы Прамень"...

Іван Дамінікавіч пакутліва ўспрымаў, як убіваўся раз'яднаючы клін (аб гэтым сведчыць Наталля Орса ва ўспамінах "Купала ў Празе" ў часопісе "Беларус", N 424 за май 1995 года). Спраўкаваная ідэйная варажнеча была разлічана на доўгі век. Нездарма Мікола Шыманка зазначае: "Мой пражскі сябра Муха-Мухноўскі ў сваёй кнізе "Пути-дороги", надрукаванай у 1972 годзе, неапраўдана абліў гразёю М. Вяршыніна, які шмат чаго добрага зрабіў для нас, беларускіх студэнтаў. І пра Тамаша Грыба ён напісаў напрасліну, што быццам ён вербаваў Муху ў эсэры. Нікога ён не вербаваў. Грыб быў вельмі інтэлігентным, сумленным чалавекам".

Так, Янку Купалу "апекавалі" і ў Чэхіі. Але ці быў "прыстаўлены" да яго Мікола Шыманка? Са свайго вопыту, яшчэ са Львова ведаю, што асцерагацца трэба не так інфарматараў, як інтэрпрэтатараў, якія стараюцца не за срэбранікі, а паводле хціваслі т. зв. класавага чуцця...

У Мікалая Піліпавіча характар быў не з лёгкіх. Ён выяўляў, напрыклад, у даследаваннях беларуска-чэшскіх сувязяў "блыху" і актыўна абураўся. Траплялі і мне на арэхі, калі мая роля пасрэдніка ў апублікаванні яго "непрыгладжаных" успамінаў не прыносіла плёну. Дарэчы, да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы амаль нічога з напісанага М. Шыманкам не пабачыла свету.

Памёр ён 25 мая 1986 года.

Інжынер Мікола Шыманка, а якраз так, па пражскай завядзёнцы, ён падпісваўся пад успамінамі пра Купалу, выступаў як перакладчык мастацкіх твораў з чэшскай на беларускую і з беларускай на чэшскую мовы. Пісаў таксама нарысы, рэцэнзіі, іншыя папулярызатарскія матэрыялы, падпісваючы іх крыптанімамі "М. Ш.", "Ш.", "Ш-а", псеўданімамі М. Дабужынскі, М. Замежнік, М. Пружанскі.

Вось такі ён, аўтар успамінаў пра Янку Купалу. Напісанае — застаецца. Даўгі, хай і чужыя, — вяртаюцца.

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**вучоны сакратар Літаратурнага музея Янкі Купалы**

## "МАЛЕНЬКАЯ БЕЛАРУСЬ"

Другая сустрэча адбылася ў Празе. Гэта было ў жніўні 1927 года. Я ўжо перайшоў на трэці курс інстытута. Янка Купала з жонкай Уладзіславай Францаўнай прыехаў каля 6 жніўня. Былі якраз канікулы. Іван Дамінікавіч папрасіў мяне суправаджаць іх у Карлавы Вары. Я, зразумела, з радасцю згадзіўся. Вось, думаю, прываліла мне вялікае шчасце быць праважатым такога славутага паэта беларускага народа... І не думаў, не гадаў, што прыйдзецца калісь ехаць у вагоне разам з Янкам Купалам. З таго часу ўжо прайшло 53 гады, а я не магу ўцяміць, чаму гэтым чалавекам аказаўся менавіта я, а не хто іншы з 30-ці членаў нашага "Саюза"? Выпадковасць? Магчыма.

З Прагі да Карлавых Вараў мы выехалі з Вільсанавага вакзала (цяпер Галоўны). Ехалі цягніком каля пяці гадзін. Пагода была цёплая, сонечная. У купэ вагона нас было трое. Іван Дамінікавіч з жонкай сядзелі з аднаго боку, а я насупраць. Дзядзька Купала, як мы ўсе тады яго называлі, хоць яму было яшчэ толькі 45 год, сядзеў абапёршыся лакцямі аб столік і сумна глядзеў у вакно, а за вакном мільгацелі прыгожыя малюнкі Чэхіі. Іван Дамінікавіч сапраўды выглядаў на хворага чалавека, худы, бледны. Больш маўчаў, часамі пытаў пра жыццё-быццё нашага студэнцтва. Ён з Ц. Гартным і М. Чаротам у 1925 годзе ўжо быў у Празе. Праўда, тады ў іх была іншая місія: сустрэча з міністрамі БНР — Крэчаўскім, Цвікевічам, Зайцам, Пракулевічам, Захаркам — для перагавораў аб ліквідацыі БНР і пераездзе іх у Мінск. Раз сустрэліся і з беларускім студэнцтвам. Купала і Чарот чыталі свае вершы, а Ц. Гартны гаварыў аб становішчы ў Савецкай Беларусі. Я на гэтай сустрэчы не быў, але сябры мне гаварылі, што больш пытанняў задавалі "стаўбы" беларускай калоніі Ц. Гартнаму. Пытанні часта былі закавырыстыя, шмат было шуму: левыя абаранялі, правыя ганілі парадкі ў Савецкай Беларусі, што там пануе русіфікацыя і г.д. Такім чынам, можна сцвярджаць, што Іван Дамінікавіч не кепска ведаў наша жыццё.

Як вядома, амаль уся заходнебеларуская моладзь трапляла ў Прагу нелегальна. Усім пашанцавала польска-чэхаславацкую граніцу перайсці ўдала. Аднак у мяне атрымалася цэлая адысея. Толькі на чацвёрты раз мне ўдалося перакрочыць польска-нямецкую і нямецка-чэхаславацкую граніцы. Таму ўсю дарогу больш гаварыў я пра тое, як першая спроба пераходу граніцы скончылася турмой у г. Нова-Сонч (каля Кракава), дзе прасядзеў 6 месяцаў, пакуль следства не пераканалася, што я не партызан (палякі называлі "бандыт") з Белавежскай пушчы... Як я, выйшаўшы з турмы, замест таго, каб ехаць дамоў, павярнуў у г. Цешын з намерам зноў перайсці граніцу, але, прыехаўшы ў гэты горад, пабаяўся здзейсніць задуму, і вярнуўся дамоў. Потым была спроба легальнага пераезду ў Прагу праз Коўну, пераход польска-літоўскай граніцы пры дапамозе вядомага беларускага дзеяча Шылы. Мая праца ў Беларускім міністэрстве ў Коўне, знаёмства з міністрамі БНР і хадзіўшым "у эсэрах" Міхаілам Русаком, які мне сапсаваў легальны пераезд у Прагу, зноў пераход літоўска-польскай граніцы ўжо пры дапамозе беларускіх партызан Разумовіча-Хмары... Як я пазнаёміўся з Б. Тарашкевічам, які мяне назначыў сакратаром Беларускага пасольскага клуба на Пружанскі павет. Арышт за антыдзяржаўную дзейнасць і адпраўка пад канвоем у салдаты польскай арміі, перадача спраў клуба Р. Шырму. Уцёкі з арміі праз польска-нямецкую граніцу і затрыманне мяне немцамі на нямецка-чэхаславацкай граніцы... Адсідка (15 дзён) у нямецкай турме, уцёкі пры транспарціроўцы і пераход нямецка-чэхаславацкай граніцы і нарэшце — Прага...

Іван Дамінікавіч з жонкай вельмі ўважна слухалі мае прыгоды: выказалі мне спачуванне.

У Карлавых Варах, на наша шчасце, з жыллём аказалася не так складана. Доктар, які прымаў Янку Купалу, даў адрас адной сям'і. Ён сказаў, што гэты адрас дае толькі паважаным гасцям. У той жа дзень кватэрнае пытанне было вырашана станоўча. Гаспадары цаглянага доміка аказаліся вельмі сімпатычнымі людзьмі. Адзін пакой і занялі дарагія госці. Дом знаходзіўся на ціхай вуліцы. Сям'я ў гаспадарoў невялікая — яны ды дачка гадоў 17-ці, прыгожая і гаварлівая. Вельмі прыемна, што хоць Максім Лужанін у сваім вершы "На сцежцы Пушкіна" ўспомніў добрым словам гэтую сям'ю Бухтэляў.

(Працяг на стар. 14—15)

# Незабыўнае

## МАЛАДЫ, ПРЫГОЖЫ АФІЦЭР

У 1916 годзе цяжкі лёс бежанца загнаў мяне, пятнаццацігадовага хлопца, на лесапрацоўку ў невялічкую (каля 30 двароў) вёсачку на Полаччыне. Не памятаю, як яна звалася. Знаходзілася каля 3-х кіламетраў на паўднёвы захад ад чыгуначнага паўстанка Баравуха. Разам са мною сюды прыехала шмат беларускіх дзяўчат-бежанак, пяток хлопцаў, такіх, як я, і некалькі пажылых рускіх мужчын.

Работамі кіравала нейкае ваеннае ведамства, кантора якога знаходзілася за кіламетры чатыры ад Баравухі ў бок Полацка, каля чыгункі (не то раз'езд, не то штосьці іншае).

Галоўнае заданне нашага калектыву — павал сасняку, прыгоднага для шпалаў.



*Я. Купала — "малады, прыгожы афіцэр"*

Секлі сасняк выбарачна. Старэйшыя мужчыны і жанчыны займаліся валкай і распілоўкай, а такія, як я, царабілі галлё, клалі яго ў кучы, а кучы спальвалі. Прывілеяванымі рабочымі былі шпалачосы-мужчыны (адкуль яны прыехалі, не ведаю).

За работай шпалачосаў і нашай наглядаў афіцэр, які жыў у доме ля канторы. Ён кожны дзень з'яўляўся на нашу дзялянку — малады, прыгожы, з вусікамі, ладна адзеты ў афіцэрскую зялёнага колеру форму. Усе шпалачосы і лесарубы ў гутарцы між сабою вельмі добра адзываліся аб гэтым афіцэры, што ён ніколі на людзей не крычаў; уважна выслухае, на заўважаныя дэфекты ў рабоце спакойна скажа іх ліквідаваць. Часта падыходзіў да нашага звяна і пытаўся ў кожнага: адкуль і як сюды папаў. Напамінаў нам, каб мы асцерагаліся пры павале хлыстоў.

На працягу чатырох месяцаў (красавік—ліпень) мне прыйшлося сустракацца з гэтым прыгожым і вельмі простым афіцэрам. Мы, лесарубы, не ведалі прозвішча нашага начальніка. Аднак вобраз яго чамусьці глыбока запаў у маю памяць...[1]

Адпрацаваў я на гэтай рабоце 4 месяцы і самавольна ад'ехаў да свайго дзядзькі, які працаваў на пабудове новай чыгункі дзесятнікам.

Прайшло многа часу. І вось у шасцідзесятыя гады гэты вобраз мне зноў абнавіўся з фатаграфіі Янкі Купалы ў поўны рост за 1916 год.

*Гродна, верасень 1980 г.*

*[1]17 траўня 1996 года адбылося юбілейнае ўшанаванне Купалавай прысутнасці на Полаччыне. З ініцыятывы Літаратурнага музея Янкі Купалы, Міжнароднага фонду Янкі Купалы, пры падтрымцы Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка (Мікалай Ільніцкі), Полацкага музея кнігадрукавання (Галіна Ладзісава), мясцовых улад (Генадзь Смарчкоў) на будынку чыгуначнай станцыі Баравуха-1 была ўстаноўлена мемарыяльная дошка (аўтар — Алесь Міронкчык). На ўрачыстым мітынгу з гэтае нагоды выступілі загадчык аддзела культуры райвыканкама Віктар Полушкін, настаўніца Баравухскай школы-гімназіі Аліна Каваленка са сваімі гадаванцамі, паэт Навум Гальпяровіч і іншыя.*

*А папярэднічай гэтай падзеі сход культурнай грамадскасці Полацка — як бы ўзнаўленне літаратурнага свята, якое тут адбылося ў гонар Купалы ў маі 1926 года. Музей кнігадрукавання прадставіў для імпрэзы залу бібліятэкі імя Сімяона Полацкага, дзе выступілі бард Алесь Камоцкі, літаратары Навум Гальпяровіч і Герман Кірылаў, супрацоўнікі музея Янкі Купалы Фаіна Ваданосава, Антаніна Хатэнка і іншыя.*




*Мемарыяльная дошка на будынку станцыі*



*Юныя апекуны купалаўскай мясціны — гімназісты Баравухі*

## СУСТРЭЧЫ Ў МІНСКУ

Выехаў я з Прагі з Вільсанавага вакзала на пачатку кастрычніка. Грошы на далёкую дарогу пазычыў Ёзэф Гора. Мяне праводзілі некалькі маіх сяброў і два знаёмыя паліцэйскія агенты. Прыехаў на пагранічную станцыю Бігосава. У мяне было яшчэ 10 долараў. На станцыі мне гэтыя долары памянялі на савецкія рублі. Узяў білет да Мінска і паехаў ужо па савецкай краіне з некалькімі рублямі ў кішэні... Так я і апынуўся ў сталіцы БССР. Гасцініца "Еўропа" мне была не па кішэні. Хто мне ў першыя дні майго знаходжання ў Мінску даў прытулак, не магу прыпомніць. Здаецца, пару начэй гасцяваў у Цішкі Гартнага. Потым знайшоў на Беларускай вуліцы прыватную кватэру. Пачаў асвойваць мінскае жыццё-быццё. У магазінах нічога не купіш, усё па картачках...

Беларусізавацца мне не прыйшлося, бо ў Празе ўсе беларусы між сабой гаварылі толькі на роднай мове.

У тыя далёкія часы ўсюды ва ўстановах БССР перапіска вялася на беларускай мове, а гаварылі, як хацелі, але болей па-руску. Цяпер, праўда, зроблены вялікі "прагрэс": і тое, і другое выконваецца на "общепонятном". Мовазнаўцы гавораць: "Надо стремиться приблизить белорусский язык к русскому". І вынікі, трэба сказаць, дасканалыя.

На Кастрычніцкай вуліцы насупраць Купалавага доміка была гарадская лазня. Часта я хадзіў у гэтую лазню мыцца. Пасля забягаў да Луцэвічаў. Тады яшчэ жыла Бянігна Іванаўна — вельмі паважаная, добрая, шчырая, гасцінная жанчына. Бывала, забягу — а гаспадароў няма. Прывітаюся, трошку паразмаўляем і я, перапрашаючыся, бягу, бо Бянігна Іванаўна пачне нешта шукаць, каб мяне пачаставаць. А ў тыя часы частаванне — вельмі складаная рэч. Усе прадукты выдаваліся па картачках. Некалькі разоў усё ж не ўдавалася ўцячы, бо дома былі і гаспадары. Раз гасцяваў, здаецца, Кандрат Крапіва, другі раз — Кузьма Чорны.

Спачатку пасля прыезду з Прагі я заходзіў часцей, а потым усё радзей і радзей. Проста не хацеў дакучаць. Па сваёй працы часта прыходзілася ездзіць у камандзіроўкі. А Івана Дамінікавіча можна было сустрэць і на Савецкай вуліцы, калі са сваім слаўтым кійком крочыў па пустой вуліцы ў Дом пісьменніка і назад дамоў. І сапраўды, Савецкая вуліца (цяпер Ленінскі праспект) у дзённыя гадзіны была пустая: ні людзей, ні падвод, ні машын. Калі-нікалі прамчыцца толькі Галадзед на "Лінкольне" з шафёрам, або сам за рулём на нейкай адкрытай малалітражцы. Саўнаркам тады месціўся там, дзе цяпер знаходзіцца Акругова дом афіцэраў.

Дом пісьменніка знаходзіўся на вуглу Савецкай і Камсамольскай, ён стаяў на ўзгорку, з якога можна было ўбачыць, як з боку Свіслачы ўзнікала фігура чалавека з кійком, якраз супраць сквера на самай горачы. Можна было ўжо пазнаць Івана Дамінікавіча. Шкада, што гэты незасіты будынак не захаваўся нават на фатаграфіі. Колькі ў ім перабывала паэтычнай моладзі! У доме была раздзявалка. Раздзявацца ніхто не раздзяваўся, бо не было чаго раздзяваць. Уся моладзь была апранута ў што папала. Проста маладыя пісьменнікі прыходзілі сюды, каб пагаварыць між сабою, пашуткаваць, даведацца, што робіцца на свеце. З раздзявалкі бачна было, хто з літаратурнага начальства важна крочыць у аддзельныя пакоі. Чутны былі заўвагі:

— Глядзіце, глядзіце, хлопцы, пайшоў Лукаш... Зноў павалок сваю агглобілю... Будзе кагосьці збіваць...

Гэты чалавек, па сутнасці, прыблуда і правакатар, са сваёй аглобляй кружыў і біў каго папала. У 1930 годзе ён на старонках "Полымя" пачаў рабіць даносы нават на самога Янку Купалу. Чалавек, які беларускай мовы не ведаў, збіваў сваёй крытыкай каго хацеў. Хто стварыў такое становішча? Калі Клімковіч, як старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, не мог расправіцца з гэтым правакатарам, дык ён, Бэндэ, меў, мабыць, чыюсьці падтрымку ў вышэйшых колах? У той перыяд, калі ўзняўся крык аб "беларускім буржуазным нацыяналізме", такія бэнды і ў літаратурнай арганізацыі, і ў Акадэміі навук, і ў іншых культурных асяродках былі патрэбны як ніколі. Чыстка ў АН. Выганяецца з пасады прэзідэнта Ігнатоўскі, а ў студзені выключаецца з партыі. 4 лютага 1931 г. стрэлам з пісталета ён адбірае сабе жыццё.

Янка Купала не меў права насіць пісталет, дык яго паспелі арыштаваць і пасадзіць у слаўтую ў тыя часы "амерыканку" (адзіночку). Ён не мог перанесці такі здзек. Натачыўшы ручку, жалезнай лыжкай робіць харакіры (распароў сабе жывот). Гаспадары "амерыканкі" надта перапужаліся і пачалі прымаць неадкладныя меры па выратаванні жыцця народнага паэта Беларусі. Памясцілі яго ў бальніцу (паводле У. Мяжэвіча, у тую, што знаходзіцца на Ленінскай вуліцы). Цяжка параненага паэта лячылі найлепшыя медыцынскія свяцілы Мінска. Быў ізаляваны, да яго нікога не пускалі. Як ягодаўскія малойчыкі ў вялікай тайне ўсё ні рабілі, у Вільню ўсё ж папалі праўдзівыя факты, якія і былі змешчаны ў беларускіх газетах з партрэтамі ў жалобнай рамцы Янкі Купалы і Усевалада Ігнатоўскага. Янка Купала ў бальніцы праляжаў доўга і яго жыццё вератавалі, а Ігнатоўскага — не маглі ўваскрасіць.

Каб паралізаваць газетныя паведамленні не толькі беларускіх выданняў, але польскіх, чэшскіх і іншых, газета "Звязда" ад 2.4.1931г. друкуе ліст, быццам напісаны самім Купалам, а на самай справе — фальшыўку. Гэтую фальшыўку пара перастаць перадрукоўваць з кнігі ў кнігу, бо яна абражае святую памяць вялікага паэта...

Вяртаюся яшчэ раз да раздзявалкі. У гэтай раздзявалцы часта можна было бачыць Івана Дамінікавіча, які любіў пагаварыць, пашуткаваць з паэтычнай моладдзю, якая прадстаўляла адценні беларускай гаворкі з розных куткоў краіны. Як толькі ён з'явіцца, так і чуецца рогат. З маладымі ў яго развязваўся язык, які быў вельмі востры. Пабудзе з гадзіну, насмяшыць моладзь і зноў пойдзе дамоў. Паэтычны маладняк яго паважаў і любіў за яго прастату, шчырасць і душэўнасць. Я часта заходзіў у раздзявалку для сустрэчы з Сяргеем Дарожным і Віктарам Казлоўскім, з якімі я сябраваў. Яны жылі на ўскраіне горада (недалёка ад нямецкіх могілак), а я на Першамайскай вуліцы супраць завода "Камунар".

З раздзявалачных знаёмых асабліва мне запомніўся Аркадзь Куляшоў, самы малады з пачынаючых паэтаў. Стаяў збоку і толькі слухаў, у гутарцы і смеху ўдзелу не прымаў, быццам яго гэта не цікавіла. Я таксама быў пасіўным, бо не быў ні паэтам, ні празаікам. А памятаю больш Куляшова.

Аднойчы на Савецкай вуліцы я дагнаў Янку Купалу і Якуба Коласа, якія ішлі ў бок сквера. Я прывітаўся і хацеў ісці дамоў. Іван Дамінікавіч затрымаў мяне і сказаў далучыцца да "старыкоў". Ён пазнаёміў мяне з Якубам Коласам, з якім я меў шчасце перапісвацца, будучы яшчэ ў Празе. Ён прыслаў мне свае кнігі, з якіх былі зроблены пераклады на чэшскую мову. Прайшлі мы скверам і накіраваліся ў парк Горкага. У парку каля танцпляцоўкі селі на лаўку. Народныя паэты і па дарозе, і на лаўцы вялі гаворку пра літаратурныя справы. Успаміналі надобрым словам Лукаша Бэнду, што займаецца не крытыкай, а паклёпам, прыклейвае паэтам розныя ярлыкі "буржуазнага нацыяналізму" і г.д. Я моўчкі сядзеў, бо што я, просты беларус, мог параіць гэтым бездапаможным волатам беларускай літаратуры? Тагачасным мясніковым і кнорыным такая абураючая сітуацыя патрэбна была. Бабарэкаў знішчалі, а бэндаў запрашалі.

У парку было ціха, людзей амаль не было. З гадзіну пасядзеўшы, Канстанцін Міхайлавіч запрасіў да сябе. Ён жыў тут жа за паркам, на Омскай, здаецца, вуліцы ў драўляным асабняку. Я мог бы, зразумела, развітацца і ісці дамоў. Але цікавасць, як Колас жыве, узяла верх, і я пайшоў з імі. Пралезлі мы праз дзірку ў плоце і адразу папалі на вуліачку, на якой з левага боку і стаяў дабротны дамок. Дзверы веранды былі адчынены. Гаспадыня, падняўшы рукі, радасна прывітала Івана Дамінікавіча, загаласіўшы: "А каго я бачу?! Рэдкі вы госць у нас". У кватэры чысценька прыбрана. Я пастаяў пару хвілін, развітаўся, сказаўшы, што дома чакае госць, і пайшоў. І сапраўды, да мяне павінен быў прыйсці Віктар Казлоўскі. Гэта было, здаецца, увосень 1932 года.

●

Аб смерці вялікага паэта і мужнага чалавека пачуў па маскоўскім радыё. Я ў той час знаходзіўся ў камандзіроўцы на лесазаводзе N 41, недалёка ад г. Кірава. А як ён "памёр", прачытаў у мемуарах Эрэнбурга. Калі ў 1930 г. застрэліўся Маякоўскі, дык хоць і напісаў, што "любовная лодка разбилась о быт", аднак жа многа паперы было спісана пра гэтае трагічнае здарэнне. Лёс Янкі Купалы аказаўся зусім іншым. Першы трагічны выпадак так замялі-заталі, што ніхто са старэйшых пісьменнікаў і цяпер быццам нічога не ведае.

●

Некалькі слоў аб тым, як ушаноўваецца памяць пра Янку Купалу і Алаізу Пашкевіч — Цётку ў Гродне.

Як вядома, Гродзенскі педінстытут носіць імя Янкі Купалы. Аднак пасля яго пераўтварэння ва універсітэт імя паэта знікла. Чаму? І вуліца ёсць Янкі Купалы, але ніхто нават са старажылаў у горадзе вам не скажа, дзе яна. Я чуў, што недзе за Нёманам, акраінная вулачка. А выдатнай паэтэсе Цётцы ў родным горадзе і такой вуліцы не дасталося. На яе вуліцы каля лесу Пышкі стаяць дзве або тры хаткі-развалюхі і на вуглу адной прыбіта шыльда з імем паэтэсы...

Хто і каму даў права гэтак здзекавацца з памяці вялікіх людзей беларускага народа?!

**Мікалай ШЫМАНКА**

*Гродна, 1981г.*

# Рыгор ШКРАБА



25 чэрвеня на 79 годзе жыцця памёр выдатны літаратурны крытык, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, заслужаны работнік культуры Беларусі Рыгор Шкраба.

Рыгор Васільевіч Шкраба нарадзіўся 17 сакавіка 1919 года ў вёсцы Краснадворцы Салігорскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1939 г. паступіў на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны эвакуіраваўся ў Свярдлоўск, дзе паступіў на трэці курс педінстытута. Цяжкія матэрыяльныя ўмовы вымусілі кінуць вучобу. Працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры на Свярдлоўшчыне. У 1944 годзе аднавіў вучобу ва універсітэце (скончыў у 1946). Заняткі спалучаў з працай у газеце "Звязда". З 1946 па 1957 г. працаваў у газеце "Літаратура і мастацтва". З 1957 г. — у рэдакцыі часопіса "Полымя", працаваў літсупрацоўнікам аддзела крытыкі і літаратуразнаўства, з 1959 па 1970 г. — рэдактар гэтага аддзела.

Першыя рэцэнзіі і артыкулы надрукаваў у 1940 г. Стала з літаратуразнаўчымі і крытычнымі працамі выступаў з 1945 г. На творчым рахунку Рыгора Шкрабы зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў "Сіла слова", "Характар. Стыль. Дэталь", "Літаратура і мова", "Энергія слова", кнігі выбраных твораў "Скарбы", "Моваю вобразаў". Разам з І. Шкраба выдаў тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак "Крынічнае слова". Рыгор Шкраба даследаваў праблемы сучаснай беларускай літаратуры, яе стылю, мовы, творчай індывідуальнасці пісьменніка. Высокі прафесійны ўзровень прац, патрабавальнасць заваявалі яму славу прынцыповага крытыка.

У 1989 годзе за кнігу "Энергія слова" Рыгор Васільевіч адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа СБП. Крытык актыўна выступаў таксама па праблемах выкладання мастацкай літаратуры ў школе. Яго падручнікі па беларускай літаратуры для 10 і 11 класаў перавыдаваліся больш за 15 разоў.

Пайшоў ад нас настаўнік многіх пакаленняў беларусаў, вядомы крытык, найсумленны чалавек. Такім ён і застанецца ў памяці тых, хто ведаў яго, назаўсёды.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

**Калектыў, рэдакцыйная калегія часопіса "Полымя" смуткуюць з прычыны смерці члена рэдкалегіі, былога супрацоўніка, вядомага пісь-менніка, заслужанага работніка культуры, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Я. Коласа Рыгора Васільевіча ШКРАБЫ і выказваюць глыбокае спачуванне сям'і, блізкім нябожчыка.**

**Калектыў супрацоўнікаў штотыднёвніка "Літаратура і мастацтва" глыбока смуткуе з выпадку смерці вядомага нашага крытыка і літаратуразнаўцы, даўняга і шматгадовага супрацоўніка "ЛіМа" Рыгора Васільевіча ШКРАБЫ і выказвае шчырае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.**

# Акцёр, рэжысёр, педагог



14 чэрвеня гэтага года Беларусь страціла яшчэ аднаго са сваіх шчырых, адданых сыноў. Не стала старшага выкладчыка кафедры тэатральнай творчасці Беларускага універсітэта культуры Уладзіміра Аляксеевіча Глінскага.

Ён быў маім вучнем. Слухаў мае лекцыі ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце і быў надзіва прыкладным студэнтам. Пазней вучыўся ў аспірантуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору пад маім навуковым кіраўніцтвам. Апошнія гады супрацоўнічалі разам у Беларускім універсітэце культуры, на кафедры тэатральнай творчасці. І ў часам няпростых дачыненнях паміж выкладчыкамі, у складаных сітуацыях Уладзімір Глінскі надзейна быў маім саюзнікам, нёс беларускасць студэнтам і выкладчыкам у найглыбокім сэнсе.

Усе мы на гэтай зямлі недавыконваем свае магчымасці і прызначэнні. Уладзімір Глінскі — таксама. Выбраўшы тэму кандыдацкай дысертацыі "Беларуска-літоўскія тэатральныя сувязі", ён закрануў цікавыя пласты культуры. А потым захапіўся творчасцю Францішка Аляхновіча. Тыя гады гэта імя было пад забаронай, а ў наш час, ашчаджаючы здароўе майго падапечнага, не стаў дамагацца завяршэння задумы.

Нейкая наканаванасць лёсу, карма. У сям'і калгаснікаў Глінскіх было пяць сыноў — вялікае багацце. Паміраюць усе — хто крыху перажыўшы сваё пяцідзесяцігоддзе, а хто і не дажыўшы. Тры гады назад перадапошнім пайшоў з жыцця старэйшы брат Уладзіміра святар Пётр.

Уладзімір Глінскі нарадзіўся 6 ліпеня 1946 г. у вёсцы Мікулічы на Глыбоччыне. Пасля Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута працаваў акцёрам у Магілёўскім абласным тэатры, тэатры імя Я. Купалы, Брэсцкім драматычным тэатры, узначальваў кіраўніцтва Народным тэатрам Мінскага аўтазавода. Увасобіў нямала значных вобразаў, паставіў шэраг цікавых спектакляў. З 1981 г. выкладаў майстэрства акцёра і рэжысуру ў Мінскім інстытуце культуры (цяперашнім Беларускім універсітэце культуры), пакінуў пасля сябе нямала годных вучняў.

Адпяванне вёў святар Аляксей — родны пляменнік Уладзіміра Аляксеевіча. А апошні спачынак У. Глінскі займеў на могілках пад Аляхновічамі, паблізу яго лецішча, дзе і здарылася бяда.

Няхай яму сняцца светлыя сны аб нашай зямлі і аб нашых людзях.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне сакратару Саюза беларускіх пісьменнікаў Віктару СУПРУНЧУКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры МАРЫІ.**

***Вайна ўсё далей адыходзіць ад нас — і змяняецца наш вугал гледжання на яе. Час не толькі згладжвае парваныя краі і кулявыя прабоіны памяці. Уласцівасць нашых дзён — адкрыццё праўды аб рэчах, здавалася б, даўно вядомых. І яшчэ — карэкцыя нашай маральнай свядомасці. Быць чалавекам трэба заўсёды, у тым ліку і ў адносінах да пераможанага праціўніка: гэтая ісціна не заўсёды была ісцінай для нас...***

***Наш суразмоўца — спадар доктар Герхард Гольц, Генеральны сакратар Народнага саюза Германіі па доглядзе за ваеннымі магіламі.***

# Герхард Гольц: "Усе савецкія салдаты ў Германіі пахаваны..."

**— Спадар Гольц, якая мэта вашага візіту ў Рэспубліку Беларусь?**

— Мы пры дапамозе пасольства ФРГ у Мінску правялі перамовы з Міністэрствам абароны РБ аб нашай сумеснай працы, паколькі ў падпісаным, але яшчэ не дзейсным пагадненні аб доглядзе за ваеннымі магіламі ў якасці арганізацыі, якія займаюцца гэтым пытаннем, з беларускага боку названа Міністэрства абароны, а з нашага боку — Народны саюз Германіі па доглядзе за ваеннымі магіламі. Я думаю, што гэтыя перамовы даюць вялікую надзею на поспех. Мы, ва ўсялякім выпадку, абмеркавалі пытанні, якія тычацца абмену інфармацыяй і практычнага супрацоўніцтва. Мы дамовіліся аб тым, што яшчэ раз падумаем пра формы нашага супрацоўніцтва і потым зноў уступім у перамовы.

**— Ці не маглі б вы расказаць пра структуру, формы работы Нямецкага саюза па доглядзе за ваеннымі магіламі на тэрыторыі Германіі?**

— Германскі Народны саюз па доглядзе за ваеннымі магіламі з'яўляецца прыватным аб'яднаннем і створаны на аснове заканадаўства аб грамадскіх арганізацыях. Аднак нам даручана дзяржаўная задача. Догляд за ваеннымі магіламі адносіцца да сферы наступстваў войнаў, а пытанні, звязаныя з наступствамі войнаў, уваходзяць у кампетэнцыю федэральных органаў. Урад Федэратыўнай Рэспублікі Германіі даручыў нам ажыццяўляць работы па доглядзе за ваеннымі магіламі за мяжой. Гэта значыць, што мы выконваем практычную работу па доглядзе за нямецкімі ваеннымі магіламі за мяжой. Унутры краіны гэтыя задачы вырашаюць гарады і абшчыны, г. зн. гэтыя пытанні ўваходзяць у кампетэнцыю федэральных земляў і пераносяцца адпаведна на ўзровень гарадоў і абшчын. Такім чынам, сфера нашай кампетэнцыі распаўсюджваецца выключна на замежжа.

**— На якой аснове сёння ажыццяўляецца супрацоўніцтва нямецкага Народнага саюза з дзяржаўнымі і недзяржаўнымі органамі Беларусі па рашэнні праблем аб доглядзе за ваеннымі магіламі?**

— Да таго часу, пакуль пагадненне аб ваенных магілах афіцыйна яшчэ не ўступіла ў сілу, асновай нашай работы з'яўляецца міжнароднае права, у прыватнасці, пагадненне аб Міжнародным Чырвоным Крыжы 1949 года, у якім урэгуляваны пытанні ў адносінах ваеннапалонных і загінуўшых.

**— Работу па пошуку і перазахаванні праху савецкіх салдат ажыццяўляе спецыяльнае ўпраўленне МА РБ па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў. Ці існуюць кантакты паміж вашым саюзам і гэтым упраўленнем па пошуку нямецкіх пахаванняў? Ці лічыце вы мэтазгодным перазахаванне праху нямецкіх салдат у Германіі?**

— Мы якраз па гэтым пытанні два дні падрабязна вялі перамовы. Як вы правільна сказалі, задача ўпраўлення заключаецца ў пошуках астанкаў савецкіх салдат. І, натуральна, там, дзе загінулі савецкія салдаты, там загінулі і нямецкія салдаты. У час пошукавых работ, вядома, трапляюцца і астанкі нямецкіх салдат. Мы дамовіліся аб тым, каб гэтыя астанкі эксгуміраваліся, рэгістраваліся і часова перазахоўваліся, і каб адпаведная інфармацыя пра гэта накіроўвалася нам. Пазней будзе прымацца рашэнне аб месцы канчатковага пахавання.

Мы кіруемся прынцыпам пахавання салдат у тых краінах, у якіх яны загінулі. Гэта з'яўляецца асновай дагавораў, якія заключыла Федэратыўная Рэспубліка Германія. Мы не можам вывозіць астанкі загінуўшых на Радзіму, як гэта робяць іншыя дзяржавы, напрыклад, Італія або часткова ЗША, паколькі гэта немагчыма ўжо з пункту гледжання іх колькасці. Ва Усходняй Еўропе загінулі ці памерлі ў палоне каля 3 мільёнаў нямецкіх салдат. Акрамя таго, асобу многіх нельга ўстанавіць. Можна вывозіць астанкі тых салдат, асобу якіх можна ідэнтыфікаваць, а тых, якіх немагчыма ідэнтыфікаваць, — хаваць тут. Мы гэтым прынцыпам не кіруемся, а хаваем загінуўшых у той краіне, у якой яны загінулі ці памерлі. Гэтым прынцыпам кіруюцца таксама многія іншыя дзяржавы. Напрыклад, англічане хаваюць загінуўшых салдат таксама ў тых краінах, у якіх яны загінулі. Вываз астанкаў на радзіму, вядома, магчымы, асабліва ў тых выпадках, калі гэтага жадаюць сваякі загінуўшых. Аднак мы робім гэта ў вельмі рэдкіх, выключных выпадках.

**— На Беларусі актыўна працуе рэспубліканская асацыяцыя пошуку і ўвекавечання памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войн "Пошук". Ці ёсць у Нямецкага саюза кантакт з ёй?**

— У дадзены момант мне гэтая назва ні аб чым не гаворыць, але зусім магчыма, што гэта арганізацыя ўступіць з намі ў кантакт, як і многія арганізацыі з іншых краін. А ў прынцыпе, мы адкрыта ставімся да такіх пытанняў. Але там, дзе ёсць афіцыйны партнёр, афіцыйныя ведамства, мы супрацоўнічаем, канечне, з ім.

**— Спадар Гольц! У гады Першай сусветнай вайны лінія расійска-германскага фронту праходзіла па тэрыторыі Беларусі. У апошнія гады выяўлены шэраг пахаванняў нямецкіх і рускіх салдат, у прыватнасці, у раёне Браслаўскіх азёраў. Ці ўстаноўлены імёны каго-небудзь з загінуўшых? Ці магчыма арганізацыя сумеснай работы беларускіх і нямецкіх спецыялістаў па пошуку і аб'яўленні гэтых мясцін мемарыяльнымі зонамі?**

— У нашу кампетэнцыю, вядома, уваходзяць таксама пытанні, звязаныя з ваеннымі магіламі і загінуўшымі ў Першай сусветнай вайне. Гэта пытанне таксама ўрэгулявана ў пагадненні аб ваенных магілах. На Беларусі мы ўжо адшукалі 23 могілкі перыяду Першай сусветнай вайны. Мы маем намер і ў далейшым аднаўляць могілкі Першай сусветнай вайны, паколькі яны яшчэ ёсць і могуць быць рэканструяваны.

**— У гады Другой сусветнай вайны загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі і гэтым, відаць, перш за ўсё тлумачыцца негатыўнае стаўленне прадстаўнікоў ваеннага пакалення да нямецкіх пахаванняў. Як вы лічыце, ці магчыма больш чым праз 50 гадоў пасля заканчэння вайны ажыццявіць прымірэнне ля магіл загінуўшых савецкіх і нямецкіх салдат?**

— Мы, канечне, ведаем, што менавіта Беларусь вельмі моцна пацярпела ў вайне і панесла іменна ў працэнтных адносінах, верагодна, самыя большыя страты ў Еўропе. Таму мы з самага пачатку паспрабавалі ўстанавіць таксама кантакты з ветэранскімі арганізацыямі. Мы правялі інфармацыйныя мерапрыемствы, каб растлумачыць мэты нашай работы. І, паводле маіх дадзеных, усё ж ёсць пераважная гатоўнасць прызнаць тое, што і немцы, якія загінулі на вайне, праз пяцьдзесят гадоў пасля яе заканчэння маюць права на дастойнае пахаванне.

**— На тэрыторыі Беларусі ёсць дзесяткі мясцін, асабліва ў Віцебскай вобласці, у раёне міжнароднага аэрапорта Мінск-2, дзе астанкі нямецкіх і савецкіх салдат ляжаць разам. Як вы думаеце, ці магчыма іх пахаваць разам як сімвал трагедыі Другой сусветнай вайны?**

— Ёсць шмат магілак перыяду Першай сусветнай вайны, на якіх пахаваны як рускія, так і нямецкія салдаты. Такіх могілак перыяду Другой сусветнай вайны пакуль яшчэ няма. Мы паспрабавалі гэта зрабіць у некаторых мясцінах, напрыклад, у Расійскай Федэрацыі, але пакуль гэта не ўдалося. У іншых краінах ёсць сумесныя могілкі. Напрыклад, у Венгрыі амаль усе могілкі — нямецка-венгерскія. Аднак ёсць добрыя намеры размяшчаць могілкі побач: напрыклад, на адным баку дарогі — савецкія салдацкія могілкі, на другім баку — нямецкія. Так што ёсць досыць станоўчы пачатак. Наша мэта заключаецца ў тым, каб пахаваць загінуўшых на вайне, даць ім дастойнае месца апошняга прыстанку. У нас на пярэднім плане стаіць практычная работа. Мы хочам рабіць гэтую работу для сваякоў загінуўшых, каб яны маглі наведаць магілы сваіх блізкіх. І мы, вядома, хочам паспрабаваць захаваць памяць аб іх. А пытанні сімволікі не ўваходзяць у нашу кампетэнцыю.

**— Апошнім часам на тэрыторыі Беларусі зафіксавана нямала выпадкаў ускрыцця нямецкіх пахаванняў з мэтай пошуку імянных жэтонаў. Бытуе думка, што за кожны жэтон можна атрымаць пэўную суму ў дойчмарках. Наколькі гэта адпавядае рэчаіснасці?**

— Мы ведаем, што асобныя магілы ўскрываюцца ў пошуках пэўных прадметаў, у прыватнасці, жэтонаў. Гэта вельмі кепска таму, што ў выніку гэтага робіцца немагчымым устанавіць асобу загінуўшага. У нашых часопісах і сярод ветэранскіх арганізацый мы распаўсюджваем рэкамендацыі ні ў якім разе не купляць жэтоны. Мы таксама прынцыпова супраць таго, каб за жэтоны плаціць грошы. Я думаю, што раскопкі магіл спыняцца, калі турысты перастануць даваць грошы за жэтоны.

**— У 1991 годзе на тэрыторыі Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці было знойдзена пахаванне 11 салдат нямецкага сапёрнага аддзялення. Пасля выяўлення іх астанкі былі перададзены ў мясцовы ваенны камісарыят. Пра гэты факт неаднаразова паведамлялася ў беларускім друку. Нягледзячы на гэта, яны так да гэтага часу не перазахаваны. Ці не мог бы ваш саюз памагчы вырашыць гэтую праблему?**

— Гэты выпадак мне асабіста невядомы. Пэўная праблема існуе з-за таго, што астанкі яшчэ не могуць быць канчаткова перазахаваны таму, што пакуль яшчэ няма адноўленых нямецкіх могілак перыяду Другой сусветнай вайны. Мы дамовіліся з Міністэрствам абароны аб тым, што ў такіх выпадках будзе ажыццяўляцца часовае перазахаванне. А канчатковае перазахаванне будзе ажыццяўляцца тады, калі будуць адноўлены нямецкія салдацкія могілкі.

**— Ці падпісана пагадненне на міждзяржаўным узроўні аб доглядзе за нямецкімі вайсковымі пахаваннямі на Беларусі? Калі так, то ці не маглі б вы больш падрабязна спыніцца на змесце гэтага дакумента?**

— Такія пагадненні заключаны і з іншымі краінамі. Яны аналагічныя. У гэтым пагадненні, падпісаным у 1996 г., урэгуляваны пытанні ў адносінах да загінуўшых нямецкіх і беларускіх салдат і тое, як гэтыя пытанні павінны вырашацца на Беларусі. У гэтай сувязі я хачу звярнуць увагу на тое, што загінуўшыя ў час вайны ў Германіі замежныя грамадзяне пахаваны згодна закону аб пахаваннях, догляд за іх магіламі ажыццяўляецца за кошт урада, і, вядома, усе замежныя грамадзяне, загінуўшыя ў час вайны ў Германіі, ужо даўно пахаваны.

**— Магчыма, у архівах Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ёсць дакументы, па якіх можна ўстанавіць месцы пахаванняў савецкіх і нямецкіх салдат, мірнага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі. Ці існуюць якія-небудзь праблемы ў правядзенні сумеснай пошукавай работы ў гэтым накірунку?**

— Германскі саюз па доглядзе за вайсковымі могілкамі да таго, як прадставілася магчымасць працаваць ва ўсходнееўрапейскіх краінах, правёў улік усіх дадзеных, якія ёсць у нямецкіх ведамствах, што рэгіструюць пахаванні на могілках. Мы склалі спіс, які складаецца з дваццаці тамоў, у які ўключаны ўсе савецкія грамадзяне, загінуўшыя ў час вайны ў Германіі, з разбіўкай па федэральных землях, раёнах і населеных пунктах. Усе наяўныя дадзеныя мы сабралі і перадалі тады яшчэ савецкаму ўраду. Пры гэтым мы, вядома, не рабілі адрознення па нацыянальнай прыкмеце салдат — беларускіх, украінскіх і г. д. Усе савецкія салдаты, якія загінулі ці памерлі ў Германіі, пахаваны.

Што датычыць беларускіх грамадзян, якія загінулі тут, то ў нас аб гэтым дадзеных няма. Непадалёк ад Каселя ў Арользене ёсць архіў міжнароднага Чырвонага Крыжа, у якім такія дадзеныя захоўваюцца.

**— Якія вы бачыце перспектывы супрацоўніцтва з беларускім бокам па доглядзе за вайсковымі магіламі?**

— Як я ўжо казаў, мы заўсёды супрацоўнічаем з афіцыйнымі органамі. На Беларусі такой арганізацыяй з'яўляецца Міністэрства абароны, якому даручана гэта работа, і мы знаходзімся толькі ў пачатку нашай работы. Я думаю, што з гэтай афіцыйнай арганізацыяй мы і будзем супрацоўнічаць у перазахаванні, у стварэнні вайсковых могілак і потым у доглядзе за імі.

**Гутарыў Ігар КУЗНЯЦОЎ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 1.7.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 3784/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12